









У часе ўрачыстасьцяў, прысьвечаных 100-годдзю Браслаўскага касьцёла. 8 верасьня 1997г.

№ 8-9 (34-35) 1997

...Урэшце Маё Беззаганнае Сэрца затрыумфуе
(з аб'яўленьняў Маці Божай у Фаціме)

# Ave Maria

ЧАСОПІС МІНСКА-МАГІЛЁЎСКАЙ АРХІДЫЯЦЭЗІІ













*Меджугор'е. Чэрвень, 1997г.*



***ДА ЮБІЛЕЮ 2000 ГОДА НАРАДЖЭНЬНЯ ХРЫСТА***



# ХРЫСТУС СЁНЬНЯ

"Хрыстус сёньня" – гэтыя словы – частка дэвізу новай евангелізацыі сьвету і падрыхтоўкі яго да юбілею 2000 года. Мы павінны добра запомніць гэты дэвіз: "Хрыстус учора, сёньня і на векі" (пар.Гбр 13, 8).

"Хрыстус сёньня" – для хрысьціяніна перадусім азначае жывога Бога, роўнага Айцу. Хоць і вельмі важным для нас зьяўляецца гістарычнае жыцьцё Хрыста, уцелаўлёнага Бога, але хрысьціянін не можа спыніцца на гэтым вобразе Езуса з Назарэта, не можа спыніцца на ўзіраньні ў Яго як у найдасканалейшы ўзор чалавека, які зьведала гісторыя. Бо Хрыстус не перастаў існаваць. Ён існуе і надалей у "постаці Божай" (пар.Флп 2, 6), зьяднаны з Айцом і Духам як адзіны Бог.

"Калі ж прыйшла поўня часу, Бог паслаў Сына свайго... каб мы маглі атрымаць усынаўленьне" (Гал 4, 4), і "прамовіў да нас праз Сына" (Гбр 1, 2), прагнучы нас збавіць. Адначасна, аднак, Ён аб'явіўся нам як Адзіны Бог у Тройцы: Бог Айцец, які, спрадвеку пазнаючы Сябе, думаючы аб Сабе, родзіць Сына ("Слова, якое было спрадвеку ў Бога" – Ян 1, 2), а з повязі, з кантакту паміж Айцом і Сынам паходзіць Дух Сьвяты, творчая Любоў Сына і Айца.

Таму, калі мы гаворым пра тое, кім ёсьць Хрыстус сёньня, мы гаворым пра Сына Божага, зьяднанага з Айцом повязьзю, якой зьяўляецца Дух Сьвяты, гаворым пра жывога Бога, Бога Адзінага ў Тройцы, пра Бога, які нас збаўляе, а не толькі пра Езуса з Назарэта, прыгожага і добрага чалавека, пра якога распавядае Евангельле.

Тым самым мы закранаем тэму бясконцай глыбіні, якая зьяўляецца прадметам нашай кантэмпляцыі.

Няшмат на гэту тэму мы можам сказаць, паслугуючыся толькі нашым розумам. Зьмест нашай веры ў "Хрыста сёньня", які "існуе ў постаці Божай", абапіраецца выключна на Божае Аб'яўленьне, атрыманае пры пасрэдніцтве таго ж Хрыста, праз якога Бог "прамовіў да нас". Як толькі мы адыдзем ад гэтага Аб'яўленьня альбо пачнем трактаваць яго толькі ў сьвятле нашага чалавечага разуменьня, тады лёгка можам сказіць праўду і сам вобраз Хрыста, які жыве сёньня. Менавіта таму новы Катэхізм Каталіцкага Касьцёла, гаворачы пра гэтыя таямніцы, карыстаецца амаль што выключна словамі Сьвятога Пісаньня.

Хто не бачыць у Хрысьце жывога Бога, які і сёньня таксама дзейнічае, той не зьяўляецца, уласна кажучы, хрысьціянінам.

Другая тэма, якая крыецца ў словах "Хрыстус сёньня" і якая цесна зьвязана з папярэдняю, таксама багатая і неасяжная. Яна выяўляецца ў сцьвярджэньні, што "Хрыстус сёньня нас збаўляе". У нашай штодзённай рэлігійнай мове мы паўтараем, што Ён "пяднаў нас з Айцом", "памёр за нашыя грахі", "зьдзейсьніў збаўленьне". Мы карыстаемся мінулым часам, падкрэсьліваючы, што падзеі гэтыя адбываліся, калі Езус з Назарэта жыў на сьвеце. Аднак на самой справе Хрыстус пастаянна зьдзяйсьняе збаўленьне і паяднаньне.

Збаўленьне чалавека мае сувязь з грахом. Грэх зьявіўся на сьвеце разам з першым чалавекам і грунтаваўся на непаслухмянасьці Богу, на пошуках уласнага дабра па-за ўсім тым, чым Бог Стварца абдараваў чалавека. Значыць, грэх грунтаваўся на адмаўленьні любові Бога, на недахопе любові да Бога. На працягу ўсяе гісторыі гэты грэх паўтараецца. Мы ім "заражаныя".

Паколькі чалавек быў заўсёды бясьсільны ў сваім граху і не змог вярнуцца да любові Бога, Бог праз свайго Сына зьдзейсьніў паяднаньне. Сын Божы стаў чалавекам і ад імя ўсіх людзей адказаў Богу Айцу любоўю і паслухмянасьцю. У Хрысьце была паўторна аднаўлена сувязь любові паміж Богам і чалавекам. Праз Хрыста зьдзясьняецца таксама ўзнаўленьне гэтай сувязі з Богам у чалавеку, які на працягу гісторыі жыве ў сваім "сёньня", у кожным чалавеку, які навяртаецца, зьмяняе свой стыль мысьленьня і верыць, што Бог яго любіць, што прабачае яму (адпускае грахі) і прагне прыняць яго як сваё дзіця.

Збаўленьне, зьдзейсьненае Хрыстом, Яго ўцелаўленьнем, жыцьцём, сьмерцю і ўваскрэсеньнем, мае па-зачасавае значэньне. Для нас яно зьдзейсьнілася адзін раз на працягу гісторыі, але для Бога, які прабывае ў вечнасьці, а значыць, не абмежаванага часам, існуючага па-за часам, збаўленьне гэтае зьдзяйсьняецца заўсёды "сёньня". (...)

Бог збаўляе нас "сёньня", калі мы пазнаем Яго праз веру і прымаем Яго збаўленьне, устанаўліваючы з ім сувязь любові.

Дасканалаю ілюстрацыяй збаўчай прысутнасьці Хрыста "сёньня" сярод нас зьяўляецца сакрамэнт Эўхарыстыі. Сьвятая Імша не толькі прыгадвае гістарычны факт Апошняй Вячэры, а таксама сьмерці і ўваскрэсеньня Езуса, але ўзнаўляе сярод нас тыя збаўчыя падзеі, даючы нам магчымасьць праз удзел у Эўхарыстыі сапраўды сустрэць уцелаўлёнага Бога-Чалавека і стаць сьведкамі Яго мукі і сьмерці на крыжы, сустрэць уваскрослага Хрыста.

Трэці шлях разважаньняў, якім трэба ісьці, каб спазнаць, што крыецца ў словах "Хрыстус сёньня", вядзе праз чалавека, які сустракаецца з Хрыстом. Гэта зноў жа неасяжная тэма. Ахоплівае яна як чалавека ў самым агульным значэньні, г.зн. усё чалавецтва ўсіх часоў, асабліва ж усіх тых, што паверылі і сталі членамі супольнасьці люду Божага альбо Касьцёла, так і кожнага чалавека паасобку, які атрымлівае збаўленьне.

У кожным чалавеку, які паверыў у Хрыста і прыняў хрышчэньне, зьдзяйсьняецца ўнутраная перамена, распачынаецца "жыцьцё з Хрыстом". І гэтая тэма патрабуе працягу.

***А.Паўлін САТОЎСКІ***
***"Rycerz Niepokalanej" №5 1997г.***
***Пераклад І.К.***

З 23 да 29 чэрвеня ў аўстрыйскім горадзе Грац праходзіла ІІ Еўрапейская Экуменічная Асамблея. Яна ўвайшла ў гісторыю як самае масавае спатканьне хрысьціянаў Еўропы, у якім брала ўдзел 700 афіцыйных дэлегатаў і звыш 10 тысяч гасьцей з 44 краінаў старога кантыненту. Арганізавалі гэты экуменічны форум і адказвалі за яго правядзеньне каталіцкая Рада Еўрапейскіх Епіскапатаў і Канферэнцыя Еўрапейскіх Цэркваў пад кіраўніцтвам арцыбіскупа Прагі, кардынала Міласлава Вылка і, адпаведна, англіканскага дзекана Джона Арнольда.

Дэвіз Асамблеі "Паяднаньне — дар Божы і крыніца новага жыцьця" даў шырокую магчымасьць для абмеркаваньня маральных, сацыяльных і эканамічных праблемаў.

Праца Асамблеі праходзіла як бы на двух розных узроўнях: афіцыйным і неафіцыйным. На першым дэлегаты працавалі над рабочым дакументам форуму ў тэматычных камісіях, на другім адбываліся асабістыя сустрэчы ўдзельнікаў, людзей, ахопленых ідэяй паяднаньня, якіх не вельмі цікавілі глабальныя і складаныя праблемы тэолагаў...

Кожны дзень распачынаўся супольнаю малітваю ў вялікім шатры каля падножжа драўлянага крыжа. Пасьля малітвы адбываліся абавязковыя біблійныя разважаньні ў чатырох групах. Кожную групу вёў прадстаўнік іншай Царквы.

Удзельнікі Асамблеі мелі мажлівасьць выбраць дыскусійную групу альбо ўдзельнічаць

# НЯПРОСТАЯ СПРАВА ПАЯДНАНЬНЯ



Біскуп Аляксандр Кашкевіч на беларускай выставе ў Грацы.





у самых розных імпрэзах, якіх у Грацы штодня адбывалася па некалькі дзесяткаў.

Увогуле трэба зазначыць, што гасьцінны і ўтульны Грац на тыя дні ператварыўся ў вялікую канцэртную і тэатральную пляцоўку, якая працавала далёка за поўнач.

Асамблею прывітаў і выказаў вялікія спадзяваньні на станоўчыя вынікі яе працы Сьвяты Айцец Ян Павел ІІ у сваім Лісьце, скіраваным да кардынала Ідрыса Кассыдыя, кіраўніка Папскай Рады па справах Еднасьці Хрысьціянаў. Папа, у прыватнасьці, зазначыў: "Еўрапейскі кантынент прагне сёньня паяднаньня сваіх народаў і выключэньня сацыяльных умоваў, якія выклікаюць падзелы. Пасьля паражэньня камуністычнага рэжыму паміж Усходам і Захадам заўважаюцца пазітыўныя адносіны. Аднак узьніклі новыя праблемы і новыя непаразуменьні, якія часта выліваюцца ў адкрытыя канфлікты, перапоўненыя насільлем. У гэтай барацьбе асаблівую адказнасьць нясуць хрысьціяне, бо ўвасабленьнем іх духовай спадчыны зьяўляецца дух прабачэньня і спакою".

І ўсё ж, нягледзячы на вялікія надзеі і мары, Асамблея паказала, наколькі няпростая гэта справа — паяднаньне. Дыскусіі, якія разгараліся на афіцыйным узроўні сярод дэлегатаў, не дазволілі прыняць заключнага дакумента, як гэта было, напрыклад, у часе І Экуменічнай Асамблеі ў Базеле ў 1989г. Тут быў прыняты толькі "рабочы дакумент".

Затое ўдзельнікі форуму мелі мажлівасьць пачуць фрагменты "Заключнага пасланьня з Граца", прачытаныя ў часе набажэнства, што завяршала Асамблею.

У "Пасланьні" гаворыцца пра такую будучыню Еўропы, у якой не будзе падзелу на лепшых і горшых, падзелу на "Цэрквы, грамадствы, дзяржавы і расы першай і другой катэгорыі". "Пасланьне" заклікае таксама еўрапейскія Касьцёлы і Цэрквы, каб яны дапамагалі захоўваць годнасьць чалавека і сьвятасьць чалавечага жыцьця, каб змагаліся за раззбраеньне, за зьнішчэньне ядзернай зброі... Заканчваецца яно словамі: "Кожны чалавек — гэта наш брат альбо сястра, за якога (якую) Хрыстус памёр і ўваскрос. Кожны чалавек створаны на вобраз Бога ў Тройцы Адзінага".

Аднак, як піша карэспандэнт штотыднёвіка "Kleine Zeitung" Фрыц Цсокліх, шматлікія выказваньні дэлегатаў Асамблеі пакінулі ўражаньне, што тэкст гэтага "Пасланьня" "разыходзіцца з рэальнасьцю".

Неадназначную рэакцыю ў дэлегатаў


Айцец Ражэ заўсёды ў цэнтры ўвагі.

Асамблеі і ў яе шматлікіх удзельнікаў выклікала выступленьне патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія ІІ. Ён катэгарычна выказаўся супраць дзейнасьці замежных місіянераў у Расіі, якія, па яго словах, "распаўсюджваюць празелітызм".

Гэта крытыка многімі была сустрэта з абурэньнем. Кардынал Вылк рашуча апратэставаў сьцьвярджэньне патрыярха, што ў Расіі мае месца такі празелітызм. Таксама 92-гадовы кардынал з Вены Франц Кёніг у сваім выступленьні гаварыў, што ён не назірае агрэсіўнай місійнай дзейнасьці ў Расіі з боку Каталіцкага Касьцёла. Адною з галоўных прычынаў такой крытыкі кардынал Кёніг бачыць прыхаваны недавер праваслаўнай Царквы да ўсяго заходняга сьвету.

Цікавым і палемічным было выступленьне сьвятара ўкраінскай грэка-каталіцкай



Боль Чарнобыля ў малюнках беларускіх дзетак.

Царквы Івана Дацько. Ён, у прыватнасьці, нагадаў, што расейская праваслаўная Царква, якая брала ўдзел у ліквідацыі уніяцкай Царквы савецкімі ўладамі, да гэтага часу не пакаялася, а гэта — істотная перашкода для вырашэньня сучасных праблемаў.

У сваю чаргу, праваслаўны мітрапаліт з Малдавіі Даніэль крытыкаваў “маральны рэлятывізм” некаторых Цэркваў на Захадзе. “Мы баімся, — сказаў мітрапаліт, — калі бачым, што робіцца найперш у некаторых пратэстанцкіх Цэрквах”.

Як можна заўважыць ужо толькі з нямногіх, прыведзеных тут выказваньняў, тэма паяднаньня вельмі хвалюе Эўропу і зьяўляецца надзвычай актуальнаю ў сёньняшнім сьвеце.

Гэтую актуальнасьць як нельга яскравей пацьвердзілі і шматлікія выставы, арганізаваныя на гандлёвым пляцы ў вялізнай зале, што насіла сімвалічную грэцкую назву Агора. Каля 100 самых розных царкоўных арганізацый, грамадскіх, жаночых і місійных рухаў, выдавецтваў прадставілі ў Агоры свае ідэі, і сваю прадукцыю. Наша беларуская каталіцкая група ўдзельнікаў Асамблеі таксама арганізавала там невялікую выставу, якая складалася з трох разьдзелаў: “Экуменізм на Беларусі”, “Касьцёл у часы таталітарызму” і “Адраджэньне Касьцёла на Беларусі”. Таксама шырока былі прадстаўлены і каталіцкія выданьні, якія мае сёньня наш Край. Выстава выклікала вялікую цікавасьць шматлікіх удзельнікаў і дэлегатаў экуменічнага форуму.

Боль Беларусі, яе чарнобыльская трагедыя былі адлюстраваны ў выставе дзіцячых малюнкаў, якую прывёз у Грац фонд “Дзеці Чарнобыля” і якая нікога з наведнікаў не пакідала абыякавым.

Недалёка ад Агоры працавала так званая экуменічная вёска, створаная супольнымі высілкамі евангеліцкай Дыяконіі і каталіцкай арганізацыі Caritas. У вёсцы гэтай мела сваё, зьмястоўна і з густам абсталяванае жытло, беларускае аддзяленьне Caritas, якое чынна прадстаўлялі яго старшыні кс.Міхал Сапель і кс.Антоні Дзянянка...

Самыя розныя і вельмі неадназначныя пачуцьці засталіся ў душы пасьля гэтага шматлюднага форуму ў Грацы. Напэўна, кожны з яго ўдзельнікаў і дэлегатаў яшчэ доўга будзе іх асэнсоўваць. Часопісная старонка не дазваляе, на жаль, нават пунктырна абазначыць усяго, што там убачылася і адчулася...

У заключным пасланьні II Эўрапейскай Экуменічнай Асамблеі падкрэсліваецца вялікая ласка Божая, якая дала мажлівасьць усьвядоміць у супольнай малітве, што ўсе мы маем аднаго Айца ў небе і зьяўляемся Яго сынамі і дочкамі. І гэта, бадай, самае важнае.

*Падрыхтавала Крыстына ЛЯЛЬКО*



Беларускі каталіцкі друк цікавіў многіх наведнікаў выставы.







# ПЕРААДОЛЕНЬНЕ

*На сёлетнім XII Міжнародным фестывалі каталіцкіх фільмаў “Непакалянаў’97” стужка беларускага рэжысёра Юрыя Гарулёва “Mater Misericordiae” (Маці Міласэрная), якая расказвае пра кардынала Казіміра Сьвёнтка, атрымала першы прыз у намінацыі дакументальных фільмаў.*

*Кінафестываль у францішканскім Непакалянаве, што знаходзіцца пад Варшавай, адбываецца штогод і традыцыйна зьбірае на конкурс вялікую колькасьць хрысьціянскіх фільмаў і праграмаў. Гэтым разам іх было прыслана 133 з 14 краін. Конкурс праходзіў у 4 намінацыях: ігравыя фільмы, дакументальныя фільмы, тэлевізійныя і катэхетычныя праграмы, аматарскія фільмы. Гран-пры фестывалю атрымаў латышскі ігравы фільм “Ганна” пра гераічны лёс настаяцельніцы кляштару ў Рызе Ганны фон Нэткен у часе перасьледу Касьцёла ў эпоху Рэфармацыі.*

*Узнагароду фільма “Mater Misericordiae” журы фестывалю абгрунтавала так: “За паказ незвычайнага лёсу кардынала Казіміра Сьвёнтка, ягонай ахвяры ў часы зьняволеньня ў камуністычных канцэнтрацыйных лагерах і гераічнай душпастырскай працы на Беларусі пасьля вяртаньня з катаргі”. Прапануем шаноўным чытачам аповед рэжысёра і аператара Юрыя Гарулёва пра гісторыю гэтага адметнага фільма.*

## Маналог з рэжысёрам

### *Гісторыя фільма крыху дзіўная*

Яна пачалася 10 гадоў таму, калі я першы раз прыехаў у Пінск з будучым вядомым рэжысёрам, а тады яшчэ пачаткоўцам у дакументальным кіно Аркадзем Гудэрманам. Мы здымалі фільм аб праблемах міліярацыі. Аркадзь пайшоў паказаць мне горад, і мы зайшлі ў францішканскі касьцёл. Шмат чаму вельмі зьдзівіліся, бо раней увогуле рэдка бывалі ў храмах. Сьледам увайшла экскурсія, якую вёў пажылы чалавек. Ён расказваў пра касьцёл як пра сваё роднае дзіця. Яшчэ былі толькі першыя гады перабудовы, толькі нешта пачыналася, а ён сьмела крытыкаваў савецкую ўладу. Мы былі проста заварожаныя тым, як ён гаварыў, якую моц выпраменьваў. На наступны дзень нам расказалі, што гэта – пробашч парафіі, што лёс гэтага чалавека незвычайны, што 10 гадоў ён адпакутаваў у лагерах. Мы зразумелі, што ён – магутная асоба і для Пінска многае значыць. Мы з Аркадзем пасьля доўга размаўлялі пра тое, што нам вельмі не хапае такіх герояў, людзей, якія ператрывалі жыцьцёвыя беды, але захавалі ў душы самае істотнае.

Потым Аркадзь загінуў у аварыі, і я перайшоў у рэжысуру, хоць сам аператар. Жыццё стала весьці мяне ў Пінск. Калі здымаў фільм “Іконы Беларусі”, то хацеў расказаць пра некалькі абразоў, якія цяпер знаходзяцца ў Пінскім



Кадр з фільма "Mater Misericordiae"

касьцёле. Я прыйшоў да ксяндза Казіміра па дазвол. Ён размаўляў са мной даволі жорстка, сур'ёзна – мабыць, не зразумеў, палічыў, што мы здымаем ігравое кіно. Сказаў, што не дазваляе, бо потым бывае сорамна глядзець сцэны, зьнятыя ў храме. А калі даведаўся, што робім дакументальнае кіно, дазволіў. Потым глядзеў, як мы здымаем.

Прайшло некалькі гадоў. Я здымаў яшчэ адзін фільм – "Прыпяць". Фільм пра раку трэба было пачынаць з Пінска. Прыйшоў яшчэ раз да ксяндза Казіміра. Ён, канешне, ужо мяне не памятаў – тысячы людзей праходзяць перад ім.

Мінуў яшчэ год, я працаваў над фільмам "Арганы Беларусі" і зноў зайшоў у Пінскую катэдру. Ён ужо быў біскупам. Тады і прыйшла думка зьняць фільм пра гэтага чалавека. Хоць я выхаваны ў атэістычнай сям'і, у атэістычным асяроддзі, але гэты чалавек мяне вельмі цікавіў. Быў час усяго новага: у гісторыі, філасофіі, рэлігіі. Але як падысьці? Ён прайшоў лагеры, ужо кардынал, яму зусім не да гэтай мітусьні зь фільмамі. Але думка пра фільм не пакідала мяне. Мне прапанавалі ў якасьці аднаго з герояў Аркадзя Шпунта, рэстаўратара, які шэсьць гадоў рэстаўраваў Пінскую катэдру. Яны працавалі разам з будучым кардыналам, гэта была іх супольная справа. Нам дапамагала гісторык Сьвятлана Адамовіч. Яны, Сьвятлана і Аркадзь, і размаўлялі з кардыналам. Першае, што ён ім сказаў: "Пачакайце крыху, потым здымеце кіно, як звычайна". Як звычайна – значыць, пасьля сьмерці.

Здагадваюся, што ёсьць у кардынала адно вялікае жаданьне (канешне, насамрэч не адно, не толькі гэтае) – аднавіць катэдру. Гэты храм – як каменнае ўвасабленьне ягонага лёсу, таму набыў асаблівы сэнс у ягоным жыцьці. Дый як не пабачыць у аднове катэдры адраджэньня Касьцёла на нашай зямлі! Таму – якая можа быць гаворка пра кіно, пра творчы шлях! Ён у Пінску аднавіў касьцёл, цяпер вось гэты чакае.

### *Як здымалі фільм і што засталося па-за кадрам*

Сцэнар стужкі напісаў Аркадзь Шпунт, кансультантам была Сьвятлана. Напачатку мы не мелі нічога – ні апаратуры, ні касэтаў, – нічога, акрамя вялікага жаданьня. Дапамога заўсёды прыходзіла нечакана, часта – ад нечаканых людзей. Тэхнічна дапамог фонд Сораса, касэты я купіў сам, і ў траўні 1995г. пачалі працаваць. Мы зьнялі некалькі эпізодаў, калі з дапамогай прыйшлі баранавіцкія вербісты і фонд *Renovabis*.

Справа расьцягнулася на два гады. Увесь гэты час мы пакрысе здымалі, і на адкрыцьці Сіноду, і на бежмаваньні ў Браславе. Але не было чагось галоўнага, не было ўнутранага раскрыцьця героя. Быў Сьвёнтэк-іерарх, была зьнешняя веліч, не было астатняга. А ён жа цудоўна фатаграфаваў у юнацтве, сам рабіў кіно. Запісваў гукі прыроды, афармляў свае стужкі. Фільмаў 16 зрабіў. У кіно ён, канешне, аматар, але не дылетант, аматар найвышэйшага класа. А яшчэ – выдатны паляўнічы.

Калі ўжо я пачаў панікаваць, бо патрэбна было хоць пару дзён пабыць з кардыналам (а ён жа на месцы не сядзіць!), мы паехалі ў Пінск. Дачакаліся. У першы дзень пасьля вяртаньня ён быў надзвычай стомлены, казаў: "Навошта гэта трэба, рабіце з таго, што ёсьць". Але не прагнаў нас. Назаўтра гэта ўжо быў зусім іншы чалавек, энергічны: вываліў нам кучу альбомаў, кучу фільмаў, шмат гаварыў з намі.

Кардынал бачыў толькі папярэдні мантаж, выказаў дробныя заўвагі. Мы хацелі ўрачыста прыпаднесьці яму гатовы фільм, а ён кажа: "Навошта? Вы зрабілі сваю справу". Паказаў нам сваю мудрасьць і сьціпласьць. Фільм для яго – дробязь, ёсьць рэчы нашмат істотнейшыя. Адправілі мы яму касэты, мабыць ён іх паглядзеў, не ведаю рэакцыі. Герой не павінен казаць, ці спадабалася яму карціна.

Гэтыя два гады далі багата плёну, для мяне асабіста таксама. Людзі на Беларусі, асабліва інтэлігенцыя, вельмі абдзеленыя. Мне цяжка раней было ўявіць каталікоў, тым больш каталіцкіх сьвятароў, такімі, якімі іх пабачыў: найкультурнейшыя, з багацейшай адукацыяй, ведамі, эрудыты. Пазнаёміўся з вербістамі з Баранавічаў. Проста ўнікальныя людзі. Ёсьць там айцец Ян Глінка. Яму 27 гадоў, адказвае за мас-медыя. А яшчэ кіруе ансамблем у Баранавічах, цудоўна грае, сам піша музыку, вершы. Ягоны ансамбль заняў першае месца на фестывалі духоўнай музыкі ў Польшчы. І ўсё ў яго атрымліваецца! Бывала, што выпадковыя людзі ў мантажнай убачыўшы першыя кадры, казалі: "Гэта ж каталікі". А крыху пазьней зусім іншае: "Вы, хлопцы, добры фільм робіце". Перад фестывалем я паказаў стужку сябрам, абсалютным атэістам. Яны былі ўражаныя. Уражаныя яшчэ і тым, што гэта тут, у нас, на Беларусі такое магчыма.







**Ю. Гарулёў:** Калі я пабачыў гэтую фігуру, то падумаў: гран-пры. Мне вельмі моцна захацелася атрымаць менавіта такі прыз. І калі падчас узнагароджваньня мне вынесьлі гэтую фігуру, я быў вельмі ўсьцешаны.

Быў і іншы выпадак. Адзін наш рэжысёр, моцна зьвязаны з Славянскім саборам, сказаў: "Добры фільм, але ж гэта каталіцтва, гэта ж палітыка!" Я рабіў фільм найперш не пра кардынала, не пра ўласна каталіка, а пра чалавека, які пранёс веру праз усё жыцьцё, жахлівыя пакуты. Гэта істотнае. Калі б гэта быў праваслаўны сьвятар, здымаў бы пра яго. Я шаную каталіцтва за тое, што ў ім ёсьць такія людзі, як кардынал Сьвёнтэк.

У Браславе кардынал падышоў да хору і пачаў размаўляць па-польску. Раптам нешта здарылася, кардынал стаў штосьць выгаворваць аднаму мужчыну. Усе накінуліся на таго, а кардынал махнуў рукой і пайшоў. Я па-польску не разумею, перапытваю ў іншых, што там здарылася. Мне сказалі: "А гэты во наш дурань сказаў кардыналу: навошта нам тут пераходзіць на беларускую службу, калі сотні гадоў было па-польску ў касьцёле?! Навошта беларуская мова?" А кардынал і выдаў яму: "Няўжо веру пакідаць толькі старым? А як жа моладзь, якая ў большасьці не ведае польскай мовы? Родная іх – беларуская".

### *Прэм'ера ў Польшчы і планы на Беларусі*

Фестываль варта было назваць хрысьціянскім, бо на яго запрашаюць не толькі каталікоў. (Каталіцызм, дарэчы, мяне вельмі ўражвае адным сваім цудоўным набыткам – экуменізмам. Мудрасьць і моц каталіцызму праяўляецца ў тым, што ён здольны адкрывацца для іншых.) Фестываль сам па сабе незвычайны. Вельмі камерны, не такі, як прынята: тусоўкі, выпіўкі... Тут усё вельмі сьціпла. Людзі прыходзяць і глядзяць фільм, а потым, што самае цікавае, абмяркоўваюць яго. Кожны можа выказаць сваю ацэнку, задаць рэжысёру пытаньне. Мабыць, таму, што не прызы тут самае галоўнае, не званьні і не лаўрэацтвы. Нас з Аркадзем трымалі паўгадзіны, вось тады я і зразумеў, што атрымалася зрабіць нешта цікавае для людзей. Фільм таксама выклікаў цікавасьць журналістаў. Прысудзілі нам і сьпецпрыз за польскую тэму. Я зьдзівіўся: чаму, якая польская тэма? Палякам, мабыць, гэта вельмі важна.

Пасьля посьпеху на фестывалі мы прапануем фільм розным каналам у суседняй Польшчы. Можа і Беларускае тэлебачаньне зацікавіцца. Спатрэбіцца – зробім нямецкую версію.

Я маю цяпер некалькі зьнятых фрагментаў пра Лагішынскую ікону, нядаўна каранаваную. Хацеў бы працягнуць працу, можа, увогуле зробім фільм пра каранацыю ікон і каранаваныя іконы. Сцэнар ужо гатовы, засталося знайсьці спонсара. Яшчэ хачу зьняць пра біскупа Лазінскага. У часопісе "Наша вера" ёсьць гатовыя тэмы для кіно. Працы хопіць.

"Mater Misericordiae" – адзін з лепшых маіх фільмаў, ён мне вельмі падабаецца. Рэжысёр падчас мантажу сто разоў бачыць кожны эпізод. Зрэшты, глядзець сваю работу становіцца проста невыносна. Але гэты фільм – іншы. Я (!) кожны раз гляджу яго да канца. Чалавек на экране мне проста цікавы. Хацеў бы, каб глядач падумаў, хто перад ім. Падумаў і пачаў думаць яшчэ далей.

***Маналог Юрыя Гарулёва занатаваў Ігар Іваноў***



# Распалі ў нашых душах любоў

...Быў другі дзень пілігрымкі да Маці Божай Будслаўскай. Стомленыя, зьнямоганыя, мы ішлі ад Празарокаў да Пліса. Ішлі паволі, бо ў часе гэтага пераходу маглі сабе дазволіць няспешную хаду. Не тое што мінулым днём, калі нам трэба было пад дажджом прайсьці за дзень сорак пяць кіламетраў і паволны крок быў бы раскошай. Сёньня ж сьвяціла сонца і ягоныя промні маленькімі іскрыстымі вясёлкамі зьзялі ў кропельках ці то ранішняй расы, ці то ўчарашняга дажджу. Не верылася, што дождж аціх і больш не палівае нас. Плашчы ляжалі ў сумках, а мы падстаўлялі сонцу яшчэ незагарэлыя твары і не маглі нацешыцца з добрага надвор'я.

Неспадзявана ўбачыла немаладога ўжо мужчыну, які сьпяшаўся нам напярэймы. Запаволіла крок, прычакала і падала яму абразок Маці Божай Будслаўскай з надпісам "Маці Божая Будслаўская, Апякунка Беларусі, маліся за нас!" Узяў яго, пацалаваў і, задыханы ад хуткай хады, не могучы перавесьці дыханьня, разьняў сваю заціснутую далонь, на якой ляжалі грошы. Зьдзівілася: "Каму? Навошта?" Мужчына адно выдыхнуў: "У Будслаў". Зразумела: ахвяра. Гэта ён так сьпяшаўся перадаць праз нас ахвяру ў сьвятыню Маці Божай. Спазмам сьціснула горла, як бывае тады, калі робіцца лішнімі і непатрэбнымі словы. І справа тут зусім не ў грашах, а тым больш не ў іх колькасьці, але ў руху душы чалавека, які, не могучы дайсьці альбо даехаць да Маці Божай Будслаўскай сам, перадаў гэты выказ сваёй любові і даверу праз незнаёмых людзей.

Гэтая ахвяра была далёка не адзінаю, якую мы занесьлі сёлета да стопаў Маці Божай Будслаўскай. Парафіяне з Полацка ды Наваполацка, выпраўляючы нас у дарогу, наказвалі, за што нам маліцца, чаго прасіць у Маці Божай, што сказаць Ёй, што перадаць. У гэтых наказах — просьбы аб здароўі і аб самых розных ласках, надзея на Матчыну апеку і разуменьне, на Яе заступніцтва перад Сынам. І потым, ужо ў дарозе да Будслава, неаднойчы давялося пачуць просьбы перадаць ахвяру, памаліцца за чыесьці здароўе, папрасіць у Маці Божай навяртаньня да Бога сына альбо дачкі, папрасіць захаваць чыюсьці сям'ю... Гэткіх просьбаў было шмат. Так ужо сталася, што мы былі пасрэднікамі і носьбітамі бедаў, трывог, надзей зусім незнаёмых нам людзей. Але праз гэты давер да Маці Божай Будслаўскай тыя незнаёмыя людзі рабіліся нам вельмі блізкімі і дарагімі. Іхнія беды і просьбы не абцяжарвалі нас дадатковым клопатам, але наадварот — давалі сілы на нялёгкі шлях і павялічвалі сэнс гэтага шляху.

Трэці раз пашчасьціла мне ўдзельнічаць у пешай пілігрымцы да Маці Божай Будслаўскай, і сёлета з асаблівай вастрынёй я адчула вялікую любоў і пашану вернікаў да Яе. Незалежна ад таго, ці яны самі ішлі нялёгкімі пілігрымскімі шляхамі-дарогамі, ці сустракалі пілігрымаў у касьцёлах, капліцах, каля прыдарожных крыжоў, а то й проста на дарозе. Вядома ж, ва ўсіх іх хапала вельмі важных справаў, але яны адкладвалі іх на нейкі час, бо ўспрымалі нашу пілігрымку ўсур'ёз. Яны разумелі, што мы ідзем гэтым шляхам не таму, што хочам прыемна прабавіць вольны час, але найперш таму, што не можам не ісьці гэтым шляхам, не можам не маліцца гэтымі днямі да Маці Божай Будслаўскай, не прасіць у Яе заступніцтва за ўсіх нас, за наш зьбалелы Край. Усім нам вельмі і вельмі патрэбна Божая літасьць, якую, вядома ж, трэба заслужыць, вымаліць малітвамі, добрымі ўчынкамі, ахвярай. Таму штогод мы і выбіраемся з крыжам у гэты шлях, таму і нясем штогод на сваіх плячах, як тыя беларусы з вядомага верша Янкі Купалы, боль, беды, крыўды. І прагнем, урэшце, таго ж, што і яны: "Людзьмі звацца". Гэта, аказваецца, вельмі і вельмі няпроста — быць тымі людзьмі, якія створаны па вобразе і падабенстве Божым.



Можа таму ўсе пяць дзён пілігрымкі ў душы было дзіўнае адчуваньне, што ў нашай групе зусім не 90 чалавек, але значна і значна больш – сотні, тысячы. Бо той, хто не мог прайсьці гэты шлях да Маці Божай на сваіх нагах, ішоў да Яе ў думках і памкненьнях свайго сэрца. Мы ўсе разам ішлі да падножжа Яе алтара, каб сказаць Ей тое, што можна сказаць толькі маці.

Некаторыя з нас узялі з сабой у дарогу абразкі з выявай Маці Божай Будслаўскай і шчодра раздавалі іх сустрэчным людзям. Мы ішлі да Маці Божай, а ў руках многіх тых, хто выходзіў нам насустрач, таксама заставаўся Яе цудоўны абраз. Ён яднаў усіх нас, запрашаў да малітвы і даверу. А яшчэ ў многіх стрэчных застаўся абразок з выявай Міхала-Арханёла, таго самага, які перамагае ў барацьбе са злым духам. Няхай жа малітва да Міхала-Арханёла дапамагае ўсім нам бараніцца ад пастак шатана, расстаўленых паўсюль на нашым жыцьцёвым шляху. У нялёгкім змаганьні са злой сілай, што лютуе ў сьвеце і кружляе па ім на згубу людскіх душаў, Міхал-Арханёл і маці Божая — надзейныя заступнікі і падтрымка ўсім нам, слабым, нямоглым, грэшным.

Надзвычайны сэнс набывалі ў дні пілігрымкі словы малітвы пілігрыма да Маці Божай Будслаўскай, якая, дарэчы, таксама нарадзілася ў часе пілігрымскіх дарог: "Усе нягоды нашай збалелай Бацькаўшчыны, увесь яе боль і векавечны смутак мы нясём сёньня да Твайго алтара і аднаго просім у Твайго Сына — літасьці. Няхай заміж цемры над ёю запануе сьвятло, заміж злосьці







сярод нас лепшых альбо горшых, Маці любіць усіх сваіх дзяцей і яшчэ невядома, за каго больш баліць Яе Найсьвяцейшае Сэрца — за тых, хто ідзе да Яе ў пілігрымцы, альбо за тых, хто бароніцца ад Яе любові. Вочы дзяўчыны шырока расплюшчыліся, яна сумелася і змоўкла, а я пабегла даганяць пілігрымаў.

І потым, у часе дарогі, сустрэч з прыветнымі ды шчырымі людзьмі, у часе супольных малітваў не-не дый узгадвалася мне тое дзяўчо. Узгадала пра яе і тады, калі нарэшце ўкленчыла перад абразом Маці Божай у Будславе. Дый як было не ўзгадаць, калі прыйдзе ў Край наш дабро, заміж паняверкі праўдзівая вера асьвеціць душы людзей. Маці міласэрная! Прытулак грэшных! Ратуй нас з цемры бязвер'я, памажы адшукаць на заблытаных сьцежках адзіна правільны шлях да Твайго Сына. Навучы нас ніколі больш не здраджваць Яму ў жыцьці дачасным, каб заслужыць жыцьцё і радасьць вечную".

Мы шмат здраджвалі Твайму Сыну, Маці Божая. Нашае жыцьцё ў большасьці складаецца з гэтых здрадаў, адступніцтва, спакусаў лёгкага хлеба — усяго таго, што называецца грахом. Чаго ж нам прасіць цяпер у Цябе і Твайго Сына, як не літасьці? Кожная сьвятыня, якая з друзу і попелу вяртаецца цяпер да жыцьця — гэта просьба аб літасьці. Кожны ўзноўлены крыж — просьба прабачэньня. Кожная пілігрымка — надзея на тое, што нашыя просьбы і малітвы будуць пачутыя і прынятыя.

Не цешу сябе заспакаеньнем, што ўсе, хто сустрэне пілігрымскую групу, успрыме яе ўсур'ёз. Ёсьць і такія, хто пагардліва адвернецца ад людзей з крыжам. А той-сёй і моцнае слоўца адпусьціць у іх адрас. Хтосьці ж успрыме гэта як чарговую моду, якая неўзабаве павінна прамінуцца. Зрэшты, гэтыя людзі і нашага часопіса не чытаюць. Не прачытае гэтых радкоў і тая дзяўчына-падлетак, якая гучна і нібы крыху сполашна крычала сваёй маці, каб тая не брала з маіх рук абразок: "Мы праваслаўныя! Нам гэтага не трэба!" Я папрасіла маці вярнуць мне абразок, бо навошта ж, каб сьвятая рэч ды заставалася непатрэбнаю. Але маці не згадзілася: "Няхай будзе". Дачка голасна і адчайна настойвала. На жаль, не мела часу на размову з тым дзяўчом, бо наша група хутка аддалялася. Адно пасьпела сказаць ёй пра тое, што мы молімся да Маці Божай не толькі за католікаў, але й за праваслаўных, за ўсіх, хто жыве на нашай зямлі. Бо ўсе мы — адно, усе мы — Яе дзеці. І няма



несьлі мы да падножжа алтара Маці Божай нягоды нашай збалелай Бацькаўшчыны. А хіба гэткія вось непаразуменьні, а той й адкрытае супрацьстаяньне — не боль і смутак нашай Радзімы?

Маці Божая Будслаўская! Дапамажы нарэшце Тваім дзецям зразумець, што ўсе яны — Тvae дзеці, а, значыць, паміж сабой — браты і сёстры. Дапамажы ім растапіць лёд недаверу, падазронасьці ў сваіх душах і распаліць у сэрцах не падманную і фарысейскую, але праўдзівую любоў да Цябе і Твайго Сына.

*Ірына ЖАРНАСЕК*

На фотаздымках
Анатоля Клешчука незабыўныя імгненні фэсту ў Будславе.





*РЭХА ПІЛІГРЫМКІ*

# Меджугор'е: цуд Божае любові



Пра Меджугор'е і пра тое, што там адбываецца, наш часопіс пісаў ужо не адзін раз. І вось цяпер мы зноў вяртаемся да гэтай тэмы. Для тых, хто ніколі не чуў пра Меджугор'е, нагадаем: у гэтым невялікім мястэчку, што знаходзіцца ў Герцагавіне (былая Югаславія), 24 чэрвеня 1981г. шасьці дзецям, якія пасьвілі авечак на гары Падбрдо, аб'явілася Божая Маці. Пастушкі спалохаліся і ўцяклі. Але назаўтра, 25 чэрвеня, нібыта на крылах узьляцелі на тую гару і зноў убачылі Цудоўную Пані. Укленчыўшы, пачалі маліцца. Маці Божая малілася разам з імі. Пасьля малітвы пачала з дзецьмі размову. З таго часу да сёньняшняга дня чацьвёра з іх бачаць Благаславёную Панну Марыю кожны дзень. Дваім астатнім Яна аб'яўляецца ў дзень іх нараджэньня і ў гадавіну аб'яўленьняў у Меджугор'і. Гэта значыць, 25 чэрвеня кожнага года.

Вось некалькі пасланьняў, якія Багародзіца перадала візіянерам (тым, хто Яе бачыць) у першыя дні аб'яўленьняў.

27 чэрвеня 1981г. Дзева Марыя сказала: "Спакой, спакой, толькі спакой. Неабходна, каб людзі паядналіся з Богам і паміж сабой. Для гэтага трэба верыць, маліцца, пасьціцца і спавядацца".

28–29 чэрвеня 1981г. дзеці запыталі, як маліцца аб спакоі. Марыя адказала: "7 разоў *"Ойча наш..."*, *"Вітай, Марыя"*, *"Хвала Айцу..."* і 1 раз *"Веру ў Бога..."*

На пытаньне дзяцей, які пост трэба захоўваць, Багародзіца адказала: "У сераду і ў пятніцу пост на хлебе і вадзе". У канцы жніўня 1981г. Благаслаўлёная Дзева Марыя сказала: "Я – Каралева Спакою". Выказала пажаданьне, каб дзень 25 чэрвеня быў сьвятам Каралевы Спакою.

Менавіта ў гэты дзень у Меджугор'і штогод зьбіраецца найбольшая колькасьць пілігрымаў з усяго сьвету – асобаў як духоўных, так і сьвецкіх. Іх ужо мільёны. На 16-годдзі з дня аб'яўленьняў Маці Божай пашчасьціла пабываць і мне. Аб тым, што перажывае душа ў гэтым сьвятым месцы, можна гаварыць і пісаць бясконца. Коратка скажу толькі тое, што з Меджугор'я чалавек вяртаецца абсалютна іншым. Менавіта там я, напрыклад, зразумела сэнс слоў Сьвятога Евангельля: "Шукайце найперш царства Божага і праўды Яго, і гэта ўсё дадасца вам" (пар.Мц 6, 33). Тут, як ніколі, адчула тое, як любяць нас нябесны Айцец наш і наша нябесная Маці. Гэту, ні з чым не параўнальную Божую ласку, ужо немагчыма забыць, немагчыма ёй здрадзіць. Яна дае сілы жыць, дае прагу імкненьня да Бога, жаданьне не згубіць гэты бясцэнны скарб і, галоўнае, разуменьне таго, што без малітвы ўсё гэта захаваць немагчыма. На працягу 16 гадоў Маці Божая ў Меджугор'і вучыць і вядзе ўсіх нас да малітвы. Амаль кожнае з Яе пасланьняў сьвету заклікае да малітвы, малітвы сэрцам.

У тыя дні, з 23 да 28 чэрвеня, што мы знаходзіліся ў Меджугор'і, Маці Божая таксама прасіла праз сваіх выбраных дзяцей: "Маліцца, маліцца і маліцца..."

Асаблівую непаўторна-кранальную моц Яе Матчыных слоў я, напрыклад, адчула падчас аб'яўлення Багародзіцы аднаму з візіянераў – Івану Драгіцэвічу. Напярэдадні наша група мела сустрэчу з Іванам. Ён запрасіў нас 27 чэрвеня а 10-й гадзіне вечара на гару Падбрдо, да блакітнага крыжа на спатканьне з Маці Божай. Людзей сабралася ў прызначаны час вельмі многа. Усе маліліся на Ружанцы. Іван са сваёй малітоўнай групай, укленчыўшы, маліўся каля крыжа. А 22-й гадзіне ўсе змоўклі. Па паводзінах, настрої і твары Івана людзі зразумелі, што прыйшла Маці Божая. Ён размаўляў з Ёю, перапоўнены шчасьцем і радасьцю, але слоў яго ніхто не чуў. У цішы кожны з нас працягваў маліцца, не губляючы тайнай надзеі: а можа і я ўбачу Матачку Божую. Тое, што перажыла душа ў той момант, немагчыма перадаць словамі. Мы не бачылі Маці Божай, але кожны адчуваў Яе святую прысутнасьць, Яе Матчына цяпло. Праз 10 хвілін Іван падняўся з каленяў і пераказаў перакладчыкам усё, што адбылося. Нам паведамілі наступнае: Маці Божая прыйшла вельмі радасная. Падзякавала ўсім за малітвы. Памалілася з Іванам "Ойча наш..." і "Хвала Айцу..." Сказала, што ўсе нашыя інтэнцыі выслуханыя і занесены да Езуса. Папрасіла маліцца ў сем'ях (г.зн. усёй сям'ёй, бо шатан, як ніколі, цяпер атакуе сем'і). Калі адыходзіла, панесла з сабой крыж. Нашыя духоўныя кіраўнікі растлумачылі гэта так: Маці Божая сабрала ў адно крыжы кожнага з нас і забрала з сабой. Хвала Усемагутнаму Богу, што прыняў нашыя малітвы! А маліліся мы, тыя, хто прыехаў сюды з Беларусі, за свой родны край, за ўсіх, хто ў ім жыве. За тое, каб кожны зразумеў вялікі сэнс жыцьця з Богам і быў збаўлены ў вечнасьці.

Гэтая паездка ў Меджугор'е была вельмі плённай на спатканьні з цудоўнымі людзьмі, якіх асаблівым чынам выбрала Маці Божая, праз якіх Яна вучыць нас і ратуе.

***Галіна КАЛЕВІЧ***


Споведзь у Меджугор'і

## Знайсьці час для Пана Бога

Шаснаццаць гадоў мінула з дня першага спатканьня людзей з Маці Божай тут, у Меджугор'і. Шаснаццаць гадоў і тысячы сустрэч з Маці Божай... Некаторыя кажуць: "Чаму так доўга? Навошта гэтак доўга працягваюцца гэтыя падзеі ў Меджугор'і?"

Сёньня нам трэба з удзячнасьцю ў сэрцы паглядзець на знак Меджугор'я на карце сьвету і яшчэ раз усьвядоміць, што гэта знак надзеі, знак вернасьці Бога дадзенаму Ім аднойчы слову. Бог застаецца верным свайму запавету нават тады, калі мы Яму здраджваем. Ён застаецца заўсёды верны. Пан Бог памятае. Пан Бог не забывае пра нас нават у вельмі цяжкіх сітуацыях, у якія мы трапляем у час самых розных перашкодаў, якія паўстаюць на нашым шляху, перашкодаў вакол нас, а, можа, яшчэ большых у саміх нас. У нас ёсьць надзея, што Пан Бог памятае аб сваёй дамове, якую заключыў з намі. Меджугор'е – адзін з такіх знакаў, які нагадвае нам пра гэта. Яно – знак надзеі, які прыцягвае нас сюды, загадвае нам перамерваць сотні кіламетраў, каб апынуцца на гэтым месцы і яшчэ раз напоўніць нашыя сэрцы той праўдзівай надзеяй, якую Пан Бог з дапамогай Марыі хоча тут уліць у нашыя сэрцы. Меджугор'е адначасна зьяўляецца і знакам вернай любові. На абразках, якія можна купіць у кожным кіёску, напісаны словы: "О, калі б вы ведалі, як моцна Я вас люблю, то плакалі б ад шчасьця!" Ці здаралася табе калі-небудзь плакаць ад шчасьця? Ці здаралася табе плакаць ад шчасьця з прычыны тае вялікае любові, якую спазнаў тут, у Меджугор'і? Калі так, то гэта сапраўды пачатак глыбокага, праўдзівага навяртаньня. Важна, каб у Меджугор'і мы яшчэ раз адкрылі свае сэрцы перад знакам вялікай любові, якую выказвае нам Марыя, знакам вернасьці Бога, знакам Яго вялікага клопату пра кожнага з нас – сваіх дзяцей.




а.Пётр Андрукевіч

Ты вернешся дахаты, перажыўшы чарговую гадавіну гэтай вялікай любові Бога, пазначанай прысутнасьцю Марыі. У цябе будуць пытаць аб пладах гэтага спатканьня. Якія плады? Ці можа добрае дрэва даваць кепскія плады? Не можа добрае дрэва даваць кепскіх пладоў і не можа кепскае дрэва даваць добрых пладоў. Колькі ж добрых пладоў ва ўсім сьвеце!

Добрае дрэва. Але ці гэткія ж плады будуць і ў тваім жыцьці? Гэта залежыць ад тваёй гатоўнасьці прыняць тыя дары, якія Пан Бог жадае скласьці тут у тваё сэрца. Меджугор'е – заклік да прыняцьця гэтае вялікае любові, заклік да прыняцьця пасланьня супакою, але гэта таксама і заклік да прыняцьця пасланьня навяртаньня, зьмены жыцьця. На такія плады ад цябе спадзяецца Пан Бог. Не на тое, што будзеш распавядаць, як бачыў, што сьвеціцца крыж, віруе сонца. Але калі скажаш, які гэта мела ўплыў на тваё жыцьцё, што зьмянілася ў табе пасьля гэтае сустрэчы пад уплывам сьведчаньня Божае любові, пад уплывам сустрэчы з Найсьвяцейшай Маці на гэтым месцы. Толькі тады добрыя плады будуць здольныя зьмяніць тваю сям'ю, зьмяніць тваё асяроддзе, зьмяніць сьвет, калі яны будуць бачныя ў тваім жыцьці як плады твайго глыбокага, праўдзівага навяртаньня пад уплывам сустрэчы з вялікаю Божай любоўю. Трэба ўсім нам моцна жадаць гэтага самім сабе. Але таксама трэба нам горача маліцца, каб сустрэча з Маці Божай там, у Меджугор'і, не засталася безвыніковай.

Адзін нямецкі сьвятар, які ў 1983 годзе прыбыў у Меджугор'е, сказаў: "Гэта тое месца, дзе людзі нарэшце маюць час для Пана Бога". Кажуць яшчэ, што людзі прыязджаюць у Меджугор'е па запрашэнні Маці Божай. Ніхто з нас не трапіў сюды выпадкова. Мы прыехалі насуперак розным перашкодам: недахопу грошай, часу, магчымасьцяў. Але ўсё ж мы прыбылі па адмысловым запрашэньні Маці Божай, каб знайсьці час для Пана Бога. Ці ж не зьяўляецца гэта заклікам для прывядзеньня ў парадак іерархіі вартасьцяў нашага жыцьця? Дзеля таго, каб мы нарэшце знайшлі ў ім праўдзівы час і месца для Бога, каб Ён заняў месца ў нашым жыцьці над усімі справамі і клопатамі. І зноў заклік: "Угору сэрцы!" Заклік да таго, каб разбудзіць тыя сэрцы для Бога і паставіць Яго на першым месцы ў сваім жыцьці. Тады плады тваіх перажываньняў у Меджугор'і будуць трывалыя, бачныя для іншых, бо людзі таксама заўважаць, што ў табе зьмянілася іерархія вартасьцяў, што для цябе напраўду найважнейшым ёсьць Бог і Яго праўда. Будзем жа маліцца ўсім сваім сэрцам дзеля таго, каб мы ўсе мелі гэткія плады!

***З казаньня а.Пятра Андрукевіча, "Radio Maria"***
***Здымкі Зоф'і Сордыль***

РЭХА ПІЛІГРЫМКІ

# У ГОСЬЦІ ДА МАЦІ МІЛАСЭРНАСЬЦІ



Ёсьць на зямлі сьвятыні, якія магнетычна прыцягваюць людскія сэрцы, да якіх зьвяртаецца чалавек у радасьці і ў смутку, да якіх імкнецца ён, пераадольваючы ўзьведзеныя ім жа самім дзяржаўныя межы і самыя розныя перашкоды. Такая сьвятыня для кожнага тутэйшага католіка — абраз Маці Божай Вастрабрамскай у Вільні.

Пачынаючы з XVII стагоддзя (некаторыя дасьледчыкі называюць значна ранейшы час), абраз гэты славіцца шматлікімі цудамі. Сьведчаць пра іх старажытныя малюнкі і безьліч вотаў, якія прыносілі Маці Міласэрнасьці на працягу стагоддзяў і прыносяць цяпер удзячныя пілігрымы.

Удзельнікі ж сёлетняй пілігрымкі з Мінскай катэдральнай парафіі Унебаўзяцьця Найсьвяцейшай Марыі Панны прынесьлі Ёй 29 ліпеня свае шчырыя малітвы і свае прыгожыя марыйныя песьні.

Пілігрымка гэта для ўсіх нас была асаблівая яшчэ й таму, што Сьвятую Імшу ў капліцы Маці Божай Вастрабрамскай адправіў ксёндз Ян Шуткевіч, у нядаўнім — дзекан Мінска і пробашч Мінскай катэдры, той, хто так настойліва і нястомна разьвіваў культ Маці Божай у сэрцах сваіх парафіянаў, хто праз Марыю, праз любоў да Яе імкнуўся паказаць шлях да Яе Сына.

У сваім пранікнёным казаньні ксёндз Ян падкрэсьліў, што менавіта Яна, Маці Міласэрнасьці, дапамагла ўсім нам захаваць веру ў самыя змрочныя часы камуністычнага перасьледу, што Яе Матчыну дапамогу і духовую падтрымку адчуваў кожны ў найцяжэйшыя хвіліны свайго жыцьця. І таму цяпер перад Яе сьвятым Абліччам кожны з нас меў за што Ёй падзякаваць. А ўсе разам мы шчыра прасілі Яе міласэрнай апекі над нашым збалелым Краем...

Пасьля набажэнства ў капліцы Маці Божай Вастрабрамскай у пілігрымаў з Мінска была цудоўная магчымасьць на працягу дня наведаць Вастрабрамскі касьцёл сьв.Тэрэсы, незвычайны па прыгажосьці касьцёл сьвятых Пятра і Паўла, знакамітую Віленскую катэдру з рэліквіямі сьв. Казіміра, іншыя сьвятыні старажытнай Вільні. Дзень, цалкам прысьвечаны малітве і глыбокаму духоваму роздуму, запомніцца надоўга і, несумненна, дасьць свой плён. А ў сэрцах нязьменна будзе жыць удзячнасьць тым, хто арганізаваў гэту сьветлую і так патрэбную нам пілігрымку: найперш — ксяндзу Антонію Клімантовічу і ксяндзу Яну Шуткевічу, якія так гасьцінна і шчыра прымаў нас у Вільні.

Няхай Маці Міласэрнасьці мае іх у сваёй апецы, няхай дапамагае Яна ўсім нам узрастаць у веры, каб быць Яе сапраўднымі дзецьмі.

**К.ЧАСНОЎСКАЯ**



*На здымках пілігрымка Катэдральнай парафіі з Мінска.*



# КАБ АДЧУЦЬ У СЭРЦЫ БОГА...


Ксёндз Уладзіслаў Блін

***У гэтым годзе нядзельны дзень 13 ліпеня як ніколі быў насычаны сьвяточнымі падзеямі ў Магілёўскай архікатэдры сьвятога Станіслава. Папершае, тут адзначалася гадавіна кансэкрацыі сьвятыні кардыналам Казімірам Сьвёнткам, Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім. Па-другое, у гэты дзень 6 гадоў таму вернікі атрымалі нарэшце сваю сьвятыню. Патрэцяе, цяпер тут праходзіў V Міжнародны фестываль сакральнай музыкі "Магутны Божа". Сьвяточную Імшу цэлебраваў нунцый Сталіцы Апостальскай Дамінік Грушоўскі.***

***Дзень 13 ліпеня вельмі сімвалічны ў каталіцкім жыцьці. У гэты дзень 80 гадоў таму, падчас аб'яўленьня ў Фаціме, Маці Божая абвясьціла сьвету праз траіх дзяцей-пастушкоў, што Усход (былы Савецкі Саюз) вернецца да Бога. Магілёў гэта яскрава адчуў на сабе, таму тут вельмі ўшаноўваецца культ Маці Божай Фацімскай, якая асаблівым чынам апякуецца гэтым касьцёлам.***

За сваю трохвяковую гісторыю Магілёўская архікатэдра, якая спачатку насіла імя Унебаўзяцьця Найсьвяцейшай Марыі Панны, а цяпер яшчэ і сьвятога біскупа Станіслава, зьведала і пажары, і разбурэньні, і зьнявагі. Гарэла ў 1810 годзе. Была адбудавана. У часе другой сусьветнай вайны часткова была разбурана. Да гэтага, у 1939 годзе, савецкія ўлады замкнулі касьцёл, а ў 1967 годзе ў ім зрабілі склад мясцовай АТС.

Можна ўпэўнена сказаць, што да 1990 года гэты будынак быў самы занядбаны ў Магілёве. Адчувалася тое нават па паху — за вярсту нагадвалі аб сабе шматлікія прыбіральні, якія месьціліся навокал. Сьцены былой сьвятыні як звонку, так і знутры крышыліся, развальваліся. У рэшце рэшт працаўнікі складу, які там размяшчаўся, не вытрывалі і ўцяклі. Вось такая маёмасьць і дасталася тады ксяндзу Уладзіславу Бліну. Але сьвятар быў невыказна рад: нарэшце шатанства адступілася ад Божага храма. А сьвятло, чысьціня, сьвятасьць абавязкова сюды вернуцца, чаго б гэта яму ні каштавала...

Ксёндз Уладзіслаў Блін прыехаў на Беларусь з Польшчы. Ён там нарадзіўся, вырас, скончыў духоўную семінарыю. Аднак радзімай сваёй лічыць Беларусь, сябе — беларусам.






Мінскі абласны камерны хор "Sonorus"

— Мае продкі паходзяць з Беларусі, — гаворыць сьвятар. — Бацька — з Віцебшчыны, маці — з-пад Смаргоні. Падчас вайны з гітлераўцамі бацька трапіў у палон і застаўся ў Польшчы. Вярнуцца на радзіму не меў магчымасьці — тады гэта было небясьпечна. Але праз увесь час у нашай сям'і былі размовы пра радзіму, былі і сьлёзы. А калі бацька паміраў, прасіў, каб прывезьлі на магілку роднай зямлі.

Па прыездзе на Беларусь ксёндз Уладзіслаў Блін зьвярнуўся да ўладаў з просьбаю аб атрыманьні беларускага грамадзянства. У хуткім часе ён атрымаў беларускі пашпарт, дзе ў радку "нацыянальнасьць" было пазначана "беларус". Вось так свае карані ён падцьвердзіў і дакументальна.

Пра тое, як няпроста было аднаўляць духоўнае жыцьцё ў Магілёве, ведаюць толькі Усемагутны Бог і сам ксёндз пробашч Уладзіслаў Блін. Першыя набажэнствы праходзілі на могілках у маленькай капліцы. На Сьвятую Імшу зьбіралася не болей як 20 бабулек.

I вось у 1991 годзе тагачасны біскуп Беларусі Тадэвуш Кандрусевіч падараваў Магілёўскаму касьцёлу фігуру Маці Божай Фацімскай. Гэта была першая фігура, прывезеная з Партугаліі ў Савецкі Саюз. З таго самага часу духоўнае жыцьцё тут набыло новую незгасальную моц. Ужо праз два гады 2 тысячы дзяцей наведвалі школу рэлігіі пры касьцёле. Адпраўляліся чатыры Сьвятыя Імшы.

Да Маці Божай Фацімскай у вобразе цудоўнай фігуры пачалі ісьці пілігрымы: хто пешшу, хто на веласіпедах. Сотнямі вернікі прыходзілі нават з Масквы, з іншых гарадоў Расіі.

Будынак сьвятыні паступова аднаўляўся, стаяў увесь у будаўнічых лясах, але духоўнаму жыцьцю парафіі гэта не перашкаджала. Людзі ішлі сюды з патрэбамі, у горы і ў радасьці, а вельмі часта і далучыцца да мастацкай прыгажосьці.

Ва ўсе часы Каталіцкі Касьцёл вызначаўся высокім інтэлектуальным узроўнем, нёс людзям асьвету, дарыў ім прыгожае, разумнае, вечнае. Ксёндз Уладзіслаў Блін добра аб гэтым ведае, таму ў катэдры заўсёды адбываецца, так бы мовіць, мастацкі рух. Гэта — выставы мастацкіх твораў мясцовых талентаў, экспазіцыі фотаздымкаў, філатэліі. Бываюць сьпектаклі, канцэрты. Аказваецца, Міжнародны фестываль сакральнай музыкі "Магутны Божа", які ўпершыню адбыўся ў Магілёве пяць гадоў таму, а цяпер праводзіцца штогод, таксама ідэя тутэйшага пробашча.

— Гэта Маці Божая Фацімская мне падказала, што такі фестываль вельмі паспрыяе духоўнаму адраджэньню, — гаворыць айцец Уладзіслаў. — Нашыя людзі за 70 гадоў ваяўнічага атэізму згубілі ў сваіх душах патрэбу ў Богу і цяпер нам неабходна шукаць нешта такое, што прывяло б чалавека ў храм. І калі ён адчуе ў сэрцы Бога, я ўпэўнены, ужо не захоча з Ім разьвітацца.

Сапраўдны сэнс апошніх слоў сьвятара я адчула тут жа, у Магілёве. У горадзе на Дняпры працягваўся V Міжнародны фестываль "Магутны Божа". Не ўсе слухачы, якія запоўнілі касьцёл, былі веруючымі. Як, напрыклад, мужчына гадоў 50-ці, што сядзеў на лаўцы каля мяне. Ён уважліва слухаў сьпевы, музыку. Было відаць — гэта яму падабаецца. І вось а 19-й гадзіне фестываль перапыніўся. Пачалася Сьвятая Імша. Мой сусед разгубіўся, не разумеючы, што адбываецца. Але не пайшоў з касьцёла. І калі ксёндз, скіроўваючы нашыя просьбы да Бога, сказаў: "А цяпер памолімся за ўсіх нас тут сабраных, каб добры Бог адарыў кожнага ласкамі, патрэбнымі для збаўленьня душы", — мой сусед раптам перамяніўся ў твары. Ён выпрастаў плечы, узьняў галаву і з вялікім даверам паглядзеў на укрыжаванага Езуса. Імша скончылася. Пачалася працэсія з фігурай Маці Божай Фацімскай каля касьцёла. Людзей было вельмі многа, але я заўсёды бачыла ўжо знаёмага мне мужчыну. Ён, як і многія, атрымаў тэкст марыйных песьняў і сьпяваў разам з усімі. І вось калі сьпеў скончыўся і пачалася малітва сьвятога ружанца, ён зноў разгубіўся. Шукаў у сваіх тэкстах словы: "Вітай, Марыя, ласкі поўная..." Але не знайшоў. Потым зразумеў, што гэта малітва. І ў канцы ўжо сьмела паўтараў з усімі: "Сьвятая Марыя, Маці Божая, маліся за нас грэшных..." Назаўтра я зноў убачыла гэтага чалавека ў касьцёле...

Ксёндз Уладзіслаў Блін не раз чуе, што цяпер у Магілёве, маўляў, каталікаў больш, чым праваслаўных. На гэта ён заўсёды адказвае: "Дзеяньне Духа Сьвятога настолькі моцнае вакол нашай сьвятыні, што некаторым здаецца: Ён захапіў усіх".

Шчыра кажучы, за два дні, якія мне давялося быць у Магілёўскім касьцёле, я не пераставала зьдзіўляцца энергічнасьці яго пробашча. Куды ні глянеш — усюды яго ўбачыш. Для кожнага знаходзіць час, да кожнага мае свой падыход. Здавалася нават, што ўвесь гэты фестывальны рух трымаецца на ім.

Вернікі любяць і вельмі шануюць свайго пробашча. Малыя дзеці туляцца да яго, як да роднага, а калі ёсьць магчымасьць, абдымуць за шыю — не адарваць. Паважаюць і цэняць яго таксама клерыкі. Кожны год больш як 100 з іх прыязджаюць у Магілёўскі касьцёл на практыку. А павучыцца тут ёсьць чаму.

Вядома, што пра плённую працу сьвятара сьведчаць, у першую чаргу, сьвятарскія і законныя пакліканьні. На сёньняшні дзень Магілёў мае ўжо 10 сваіх клерыкаў і дзьве законныя сястры. Сёлета зноў ёсьць новыя пакліканьні.

Падчас нашай размовы айцец Уладзіслаў Блін неаднойчы зазначаў: "Ва ўсіх гэтых справах нас трымаюць малітва і справы міласэрнасьці. Без гэтага нічога добрага зрабіць немагчыма".

Малітва. У нядзелю і сьвяты яна гучыць у касьцёле безупынна. Праз цэлы дзень у храме ёсьць людзі, якія моляцца. Хоць і сорамна прызнацца, але ўпершыню тут, у Магілёве, я пачула сваю ўлюбёную малітву — Каронку да Божае Міласэрнасьці — сьпяваную. Як гэта прыгожа! А як кранальна праходзіць тут адарацыя Найсьвяцейшага Сакрамэнта. Кожны першы чацьвер месяца на адарацыю зьбіраецца моладзь, а кожную нядзелю ўвечары — "сямейны касьцёл".

Трэба адзначыць, што "сямейны касьцёл" пры Магілёўскай архікатэдры (дарэчы, як і "Легіён Марыі") вельмі моцныя супольнасьці.

Кожны чалавек у гэтай парафіі разумее і прымае блізка да сэрца словы Езуса: "Тое, што вы зрабілі аднаму з гэтых меншых братоў маіх, вы зрабілі Мне" (пар.Мц 25, 40) Таму тыя, хто прыходзіць у сьвятыню па дапамогу, знаходзяць яе. Для галодных людзей, напрыклад, заўсёды прыгатаваныя канапкі ці булачкі. Не пакідаюць без сваёе ўвагі тут і тых, хто знаходзіцца ў доме састарэлых, а таксама ў турме.

Своеасаблівую ўвагу пробашч удзяляе дзецям. Кожны год яны сотнямі выязджаюць за межы Беларусі. Цяпер, у жніўні, напрыклад, 400 дзяцей адпачываюць у Польшчы.

Пералік добрых спраў і чынаў пробашча Магілёўскай архікатэдры айца Уладзіслава Бліна і ўсіх тых, хто з ім працуе, можна працягваць. Спадзяемся, мы гэта зробім у будучых сваіх матэрыялах. А пакуль нагадаем нашым чытачам простую ісьціну: "Лепей адзін раз убачыць, чым сем разоў прачытаць". Хто не быў яшчэ ў Магілёўскім касьцёле — адным з самых старэйшых і найпрыгажэйшых на Беларусі, – раім абавязкова пабываць. Вас там заўсёды чакаюць і гасьцінна прымуць.

*Галіна ГРАХОЎСКАЯ*















# СЬВЯТА Ў ВАРАПАЕВЕ

27 ліпеня 1997 года адбылося ўрачыстае асьвячэньне новазбудаванага касьцёла св.Міхала Арханёла ў Варапаеве, што на Віцебшчыне. Доўгія чатыры гады малітвы і працы, працы нялёгкай, складанай закончыліся благаслаўленьнем нашага Арцыпастыра кс.кардынала Казіміра Сьвёнтка, які прыбыў на гэтую ўрачыстасьць.

Задоўга перад пачаткам тысячы людзей сабраліся каля сьценаў сьвятыні, каб узносіць да Бога малітвы ўдзячнасьці і быць сьведкамі незвычайнай падзеі. А 14-й гадзіне ксяндза кардынала прывітаў перад касьцёлам пробашч парафіі ксёндз пралат Юзаф Булька. Парафіяне таксама шчырымі словамі, прыгожымі кветкамі, хлебам ды сольлю пацьвердзілі сваю любоў, адданасьць Богу і Касьцёлу. Словы казаньня і кансэкрацыйнай малітвы ў часе Сьвятой Імшы да глыбіні сэрцаў кранулі ўсіх прысутных. Людзі не зьвярталі ўвагі на дождж, які ішоў амаль цэлы дзень, многія стаялі на вуліцы, чакаючы Сакрамэнту Бежмаваньня і Сьвятой Камуніі.

На заканчэньне ўрачыстасьці ксёндз пробашч падзякаваў ксяндзу кардыналу за асьвячэньне касьцёла, за ўдзелены Сакрамэнт Бежмаваньня, падзякаваў сьвятарам, законным сёстрам, клерыкам і ўсім сабраным за іх прысутнасьць і малітвы, падзякаваў усім, хто браў удзел у будове, а таксама нагадаў пра тое, як зьявілася ідэя будаваць касьцёл у Варапаеве, як была адслужана першая Сьвятая Імша на старых могілках і, што цікава, тады таксама ішоў дождж.

Урачыстасьць закончылася прамовай ксяндза кардынала і яго пастырскім благаслаўленьнем. Потым былі асьвечаны фігура Маці Божай, што ў парку за касьцёлам, і капліца, якая доўгія гады была адзіным месцам, дзе вернікі зьбіраліся на супольныя малітвы.

Гімн *"Te Deum"*, які гучаў з вуснаў тысячаў людзей ў гэты дзень, дакладна перадаваў удзячнасьць Пану Богу за ўсё, што Ён дае нам.

*Deo gratias — Дзякуем Богу.*

***Я.К.***

***Здымкі аўтара***



# ПОМНІК БОЖАЙ МІЛАСЭРНАСЬЦІ

Калі едзеш па шашы з Глыбокага на Докшыцы, мінаеш невялікую вёску Варганы. Пры самай шашы падарожніка сустракае крыж, зроблены з камянёў, якіх нямала на тутэйшых палях. Чалавек, што паставіў гэты крыж, жыве тут жа — у першай хаце ад бальшака, ад таго самага каменнага крыжа. Яго завуць Аляксандр Аляксандравіч Калбасіч. Гэта дзякуючы яму, узьнік тут гэты крыж, які прымушае многіх прыпыніцца, пакланіцца яму, падумаць аб вечным. Сёлета каля крыжа зьявілася і фігура Маці Божай, устаноўленая таксама на камені. А побач у прыгожую, з густам адшліфаваную каменную пліту ўмантаваны абраз Маці Божай. Усё гэта зроблена рукамі Аляксандра Аляксандравіча, чалавека немаладога ўжо веку, які мае рэдкую прафесію каменячоса, нялёгкую прафесію, прыдбаную цяжкай працай, потам і... бядой.

Мінулай вайной трапіў Аляксандр Калбасіч у палон да немцаў. 13 месяцаў жорсткага, нечалавечага выпрабаваньня. Іх было ў тым лагеры паўтары тысячы, маладых хлопцаў, якія сутыкнуліся з д'ябальскай сілай зьнішчэньня чалавека чалавекам. Тады і даў Аляксандр самому сабе і Богу абяцаньне, а можа й клятву: калі Бог пакіруе так, што ён вернецца ў родныя мясьціны, то абавязкова на знак удзячнасьці паставіць крыж — помнік Божае літасьці над слабым чалавекам.

З 1500 вязьняў таго лагера выжыла ўсяго толькі 250. Сярод іх быў і Аляксандр Калбасіч. Але выканаць сваё абяцаньне ён змог яшчэ няхутка. За тое, што 13 месяцаў пакутаваў у фашысцкім палоне, Аляксандра чакала савецкая штрафная рота. Чым ён правініўся перад сваёй радзімай — так і не зразумеў. Хіба тым, што выжыў?

Часу для разваг над гэтым горкім пытаньнем хапіла. Дзевяць гадоў Калымы — вось чым узнагародзіла яго дзяржава. Дзевяць гадоў сьцюжы, голаду, цяжкай працы ў чужым, няветлым краі. Але сярод холаду жорсткіх выпрабаваньняў Аляксандра ўсё ж не пакідала надзея вярнуцца некалі на радзіму. Вярнуцца і ўрэшце выканаць сваё абяцаньне. Чалавек, які верыць у Бога, тым і адрозьніваецца ад няверуючага, што ў самых нечалавечых умовах ён не пакідае спадзявацца на Божую міласэрнасьць, давярацць ёй сваё жыцьцё і не наракаць, але дзякаваць Пану Богу за ўсё, што страчаецца на ягоным жыцьцёвым шляху.

Праз дзевяць гадоў Аляксандр вярнуўся ў родныя мясьціны. Першае, што зрабіў, пасадзіў дрэвы — як знак таго, што жыцьцё працягваецца. Дрэвы







прыжыліся, узяліся ў рост, цешылі вока гаспадара. Але ён усё яшчэ меў свой клопат — як выканаць даўняе абяцаньне? У душы ён дзякаваў Пану Богу за тое, што доўгія пакуты скончыліся, але трэба было яшчэ паставіць і відочны знак гэтае падзякі. І аднойчы Аляксандр узяў у рукі адбойны малаток ды зубіла, а матэрыялам стаў звычайны камень... Так зьявіўся з-пад ягоных рук першы каменны крыж, той самы, які цяпер сустракае падарожнікаў на шашы ў засені высокіх, разгалістых дрэў.

На хлеб штодзённы Аляксандр таксама зарабляў каменем. Не злічыць, колькі машын з каменьнем прайшло праз ягоныя рукі. Большасьць з іх лягла на вуліцы ды плошчы Полацка, у падмуркі дамоў. Чалавек працаваў, зарабляў на хлеб, карміў сям'ю, а душу не пакідала жаданьне зрабіць яшчэ штосьці такое, што казала б людзям аб вечным, высокім, Боскім. І неўзабаве ў двары ягонага дома вырас яшчэ адзін крыж, потым — другі. Яны і цяпер стаяць у двары майстра — як прыклад плённага супрацоўніцтва на хвалу Божую прыроды і чалавека. А потым каля прыдарожнага крыжа зьявіліся фігура і абраз Маці Божай...

Цяпер майстар мае новыя задумы. Каб іх ажыцьцявіць, трэба ўкласьці шмат працы, зрэшты, як і ў кожны твор, які зьявіўся з-пад ягоных працавітых і таленавітых рук.

Ці засталася ў душы крыўда на несправядлівы, цяжкі лёс, што напаткаў яго ў маладосьці? Не. Ёсьць толькі ўсьведамленьне, што лёс чалавека поўнасьцю знаходзіцца ў руках Божых. Выпрабаваньні не пакінулі Аляксандра Аляксандравіча і цяпер. Сем гадоў цэрпіць цяжкую хваробу ягоны ўнук Сярожа, і яны з жонкаю Нінай Сьцяпанаўнай штодня просяць у Пана Бога літасьці. Просяць і разумеюць, што толькі аднаму Богу вядомыя нашыя лёсы і сэнс нашых цярпеньняў. І хто ведае, ці не стане будучыня ў вечнасьці таго, хто пакутаваў пры жыцьці, яснай, поўнай хвалы і радасьці, ці не пазайздросьцяць ёй тыя, хто пры жыцьці цешыўся са свайго багацьця, моцы і часовага, такога зьнікомага шчасьця? Пра ўсё гэта, пра сэнс пакутаў, цярпеньняў, надзеі найлепей кажа чалавеку крыж. Бо хрысьціяне ведаюць, што ў крыжы для іх і цярпеньне, і збаўленьне, і навука любові. Пра ўсё гэта кажа падарожнаму чалавеку і крыж з каменя ў Варганах, зроблены рукамі майстра Аляксандра Калбасіча. Бо ён, каменны й маўклівы, увабраў у сябе крыж ягоных пакутаў, вялікай любові і надзеі.

Дык спыніся ж, падарожнік, каля гэтага крыжа. Спыніся, памаліся, памаўчы. Няхай пагляд вачэй Маці Божай надасьць сэнс твайму шляху і няхай прыйдзе да цябе ўсьведамленьне таго, што ўсё часовае ў нашым жыцьці мінаецца. Застаецца толькі крыж. Крыж нашага жыцьця.

*Ірэна* **ЗАДАРОЖНАЯ**

***На здымках:***

У двары дома майстра Аляксандра Калбасіча; каля прыдарожнага крыжа ў Варганах спыняюцца падарожнікі, а ў часе пілігрымкі да Маці Божай Будслаўскай тут любяць адпачыць пілігрымы. І тады насустрач ім выходзіць сам майстар разам са сваёй жонкай Нінай Сьцяпанаўнай.

***Фота Юрыя Шэнды, клерыка Гродзенскай духоўнай семінарыі.***

НАШЫ СЬВЯТЫНІ

# ЮБІЛЕЙ СЬВЯТЫНІ



Гісторыя Браслаўскага касьцёла Нараджэньня Маці Божай бярэ свой пачатак у сівой даўніне, ажно ў 1424 годзе. Дакументаў, якія гаварылі б пра станаўленьне Браслаўскай парафіі, не захавалася, але з актаў, што знаходзяцца ў Віленскім архіве, вынікае: драўляны касьцёл у Браславе заснаваў віленскі ваявода па загадзе вялікага князя Вітаўта.

У 1794 годзе, падчас касьцюшкаўскага паўстаньня, горад згарэў, а разам з ім і касьцёл з усімі дакументамі. На працягу трыццаці гадоў набажэнствы адбываліся ў пуні, пабудаванай на месцы спаленай сьвятыні. Новы касьцёл быў узьведзены ў 1826 годзе, дзякуючы намаганьням ксяндза Навіцкага, аднак малыя памеры сьвятыні не задавальнялі католікаў. Ксёндз Пётр Даўгіловіч вырашыў павялічыць касьцёл, але не пасьпеў закончыць перабудову. Давёў справу да канца з дапамогай парафіянаў ксёндз пробашч Францішак Бірутовіч. Працы скончыліся ў 1897 годзе. Ад людзей вядома, што сьвятыня была кансэкравана біскупам Цыртоўлем, жмудскім суфраганам, падчас візітацыі ў 1906 годзе, але дакументаў, якія б гэта пацьвярджалі, таксама не захавалася.

Пасьля перабудовы храм набыў іншае архітэктурнае абліччa. Гэта трохнававы прамавугольны будынак з бутавага каменя і чырвонай цэглы, пакрыты двухсхільным дахам. Сьцены яго выкананы з вялізных камянёў рознага колеру, у якіх адна грань мае плоскую паверхню. Аконныя праёмы, карнізы, шэраг іншых архітэктурных дэталяў зроблены з чырвонай цэглы. Галоўны фасад упрыгожвае трох'ярусная вежа з цэглы, завершаная шатром і па баках ураўнаважаная дэкаратыўнымі васьміграннымі вежачкамі. З элементаў дэкору ёсьць кантрафорсы, стрэльчаты партал, аркатура, нішы, карнізныя паясы. Бакавыя сьцены рытмічна прарэзаны аконнымі праёмамі з паўцыркульным завяршэньнем. Алтарная сьцяна, якая не мае апсіды, аздоблена круглым акном. Інтэр'ер храма не аднойчы перарабляўся, на хорах ёсьць арган пачатку XX стагоддзя.

У галоўным алтары захоўваецца абраз Маці Божай Браслаўскай — самая шануемая каталіцкая сьвятыня Браслаўшчыны. Старажытная назва гэтага абраза — Маці Божая Манастырская. З XV стагоддзя на востраве Манастыр, які знаходзіцца на возеры Несьціш за чатыры кіламетры на паўночны ўсход ад Браслава, існаваў уніяцкі манастыр Базыльянаў, дзе і быў гэты абраз. У 1832 годзе ўсе манастырскія будынкі на востраве зьнішчыў пажар. Паводле паданьня, не загінуў у пажары толькі абраз Багародзіцы, які і сёньня зьберагаецца ў Браслаўскім касьцёле. Гэты абраз Маці Божай быў аздоблены вотамі, у тым ліку — старажытнымі. Пасьля вайны 1920 года колькасьць вотаў павялічылася, але калі касьцёл праз некалькі гадоў зачынілі, большая іх частка зьнікла.

Пасьля другой сусьветнай вайны з касьцёла зрабілі склад, у якім захоўвалі збожжа. У 1956 годзе, дзякуючы стараньням парафіянаў, касьцёл з вялікімі цяжкасьцямі вярнулі вернікам, але ў зьнішчаным стане...

Гаворачы пра гісторыю Браслаўскага касьцёла, нельга не ўспомніць асобы ксяндза Часлава Вільчынскага, які на працягу дзевятнаццаці гадоў быў пробашчам Браслаўскай парафіі. Дзякуючы яму, у цяжкі для касьцёла час парафіяне штодня маглі ўдзельнічаць у Сьвятой Імшы.

Цяпер у Браславе працуе ксёндз Лешак Вітвіцкі з закону сальватарыянаў, які годна працягвае душпастырскую традыцыю сваіх папярэднікаў.

**Л.В.**

Фотарэпартаж з урачыстасьцяў, прысьвечаных юбілею касьцёла, — на 3-4 старонках вокладкі





СЬВЯТЛО-ЖЫЦЬЦЁ

# Кожны дзень — па ружанцы

*Як часьцінкі Ружанца, прабягаюць хвіліны,*
*Нашы беды і радасьць, і шчасьце.*
*Пану Богу нясі іх, паяднаных Ружанцам,*
*Наша Панна Марыя з Божай ласкай.*

Радкі гэтай жыццярадаснай песьні прыйшлі на памяць цёплым жнівеньскім вечарам у Камаях, у лагеры адпачынку дзяцей і юнацтва. Вось ужо трэці год гэты лагер гасьцінна расстаўляе свае намёты паблізу старажытнага касьцёла і запрашае адпачыць, набрацца фізічнага і духоўнага здароўя і дзяцей, і моладзь, і маладыя сем'і.

Дзеці з Паставаў, Бабруйска, Кобрына, Ляхавічаў, Мёраў, Глыбокага, Шаркоўшчыны сьпявалі ў той вечар самыя розныя песьні. Вясёлая ж песенька сястры Магдалены Назарэтанкі ў беларускім перакладзе ўзгадалася мне таму, што жылі гэтыя дзеці паводле сьвятога Ружанца, перажываючы за пятнаццаць дзён свайго адпачынку ў лагеры пятнаццаць яго таямніцаў. Я прыехала туды, калі лагер перажываў чацьвёртую хвалебную таямніцу — Унебаўзяцьце Найсьвяцейшай Панны Марыі. У той вечар давялося пачуць вясёлыя песьні, папрысутнічаць на "Зялёным вечары" з яго гульнямі, конкурсамі, спаборніцтвамі, дасьціпным гумарам і жартамі, пачуць сьцішаныя вечаровыя малітвы ў касьцёле. А паміж усім гэтым нене дый пачуецца сумны ўздых, а то й плач, прычына якога зразумелая — ішоў чатырнаццаты дзень жыцьця ў лагеры, заўтра — апошні. А гэта значыць, што неўзабаве ўсе пятнаццаць дзён застануцца прыемным, сьветлым успамінам пра тое, як разам сустракалі кожны ранак фізічнай зарадкай, супольнымі малітвамі, смачным сьняданьнем, як потым удзельнічалі ў Сьвятой Імшы, гулялі ў ваколіцах Камаёў, удыхалі чыстае, настоенае на водары зёлак, паветра, загаралі пад промнямі ласкавага сонейка, як кожнага дня ўдзельнічалі ў біблійных занятках, кожнага дня пад гукі гітары сьпявалі прыгожыя песьні, а ўвечары зьбіраліся вакол вогнішча... І на ўсё хапала часу — на спорт, гульні, сьпевы, малітвы.

Канікулы з Богам — пад такім дэвізам жылі яны ў гэтым цудоўным лагеры. І многія з іх, мабыць, упершыню ў жыцьці зрабілі



У часе пасьвячэньня ў міністранты ў Камайскім касьцёле.

адкрыцьцё: жыцьцё ў прыязнасьці з Богам зусім не сумнае і аднастайнае, але радаснае, напоўненае пазнаньнем самога сябе і таго сьвету, у якім ты жывеш. І калі ты жывеш па Божых прыказаньнях, то яно напаўняецца дабром і сьвятлом, з яго некуды зьнікаюць сум, аднастайнасьць, раўнадушша, жаданьне зрабіць камусьці прыкрасьць, за штосьці адпомсьціць.

Улетку, вядома ж, няўрымсьлівым дзецям хочацца як найболей пагуляць, і можна было б чакаць, што гадзіна біблійных заняткаў кожнага дня будзе для іх сумнай. Але мне давялося бачыць, як у часе гэтых заняткаў у сшытках самых малодшых зьяўляліся цікавыя малюнкі, як старэйшыя разважалі над сэнсам малітвы, а юнакі і дзяўчаты ўчытваліся і намагаліся зразумець асобныя падзеі Евангельля. Дзякуючы таму, што заняткі праводзіліся паасобку ў розных узроставых групах, іх удзельнікі маглі пазнаць шмат карыснага, таго, што потым спатрэбіцца ў жыцьці.

Усяго лагер у Камаях меў сёлета чатыры туры. Дзеці, моладзь, дарослыя прыязджаюць у Камаі з розных куткоў Беларусі і знаходзяць тут сардэчны прыём з боку айцоў сэрцанаў, якія вось ужо трэці год арганізуюць гэты лагер, з боку клерыкаў Гродзенскай духоўнай семінарыі і законных сясьцёр. Клопату ў тых, хто арганізаваў і ўтрымлівае лагер, хапае. Трэба паклапаціцца, каб смачнай і каларыйнай была ежа, цікавымі і зьмястоўнымі — заняткі, каб адпачынак на лоне маляўнічай прыродыаднавіў здароўе, дадаў сілаў, прынёс духоўныя набыткі ўсім тым, хто прыязджае ў Камаі. Увесь гэты клопат дае ў рэшце рэшт добры вынік. І, напэўна ж, кожны, хто пабыў тут, паехаў дахаты са шчырай удзячнасьцю айцу Зьбігневу Бояру, пад чыім кіраўніцтвам працуе лагер, і яго ным законным братам Віктару Сініцкаму, Марэку Радэцкаму, клерыкам Вячаславу Барку, Аляксандру Амяльчэню, Віктару Шчучко, Алегу Буткевічу, Пятру Шарко, чыім клопатам падтрымліваюцца дысцыпліна і парадак, праводзяцца заняткі і наладжваецца зьмястоўны адпачынак, сястры babyшулянцы Мажэне з Кобрына і сёстрам кармэлітанкам Наэлі і Бенедыкце з Гудагайскай парафіі, якія ствараюць у лагеры атмасьферу добразычлівых адносінаў і ўтульнасьці.

...Жыцьцё паводле сьвятога Ружанца. Гэты прынцып быў задуманы заснавальнікам хрысьціянскага руху "Сьвятло — Жыцьцё" Францішкам Бляхніцкім. Невялікія групы дзяцей і моладзі ён назваў "Аазісамі Дзяцей Божых". Гэты хрысьціянскі рух вядомы ўжо ў многіх краінах сьвету, і вось некалькі гадоў таму ён прыйшоў і на Беларусь. Прыйшоў, і распачалося цікавае, зьмястоўнае жыцьцё сярод дзяцей ды моладзі. Лагер у Камаях — адзін з такіх аазісаў. Гэта вельмі прыгожае суседства — старажытнага касьцёла і турыстычных намётаў, спрадвечнай мудрасьці і юначых галасоў, цішыні задумлівых муроў і звонкіх песьняў. Пад паглядам мудрых вачэй са старасьвецкага абраза Маці Божай Чанстахоўскай, які цудам захаваўся ў гэтым касьцёле, дзеці і моладзь перажываюць радасьць нараджэньня хрысьціянства, боль і трагедыю гісторыі збаўленьня чалавецтва з моцы сьмерці, славу хрысьціянства, што зьзяе сваёй цудадзейнай красой праз стагоддзі.


Нунцый Апостальскай Сталіцы Дамінік Грушоўскі сярод удзельнікаў лагера адпачынку для дзяцей і юнацтва ў Камаях.

Далучэньне да сутнасьці хрысьціянскіх традыцый вымагае ад людзей адпаведных учынкаў, зрухаў у душы. І тады ў лагерным журнале, які ляжыць на адным з алтароў Камайскага касьцёла, побач са сьвечкай аазіса, чыё сьвятло ўспыхвае штораніцы, зьявіцца запіс накшталт: "Абяцаю слухацца тату і маму", "На працягу года не буду курыць", "Да таго, як мне споўніцца васемнаццаць гадоў, не буду піць алкаголю", "Абяцаю Панне Марыі да замужжа захаваць дзявочую нявіннасьць"... Ніхто іх не прымушаў рабіць гэткія абяцаньні. Натхненьне прыйшло з таго сьвятла хрысьцінства, якое зязьзяла ў іхніх душах у аазісе. І таму такія сьцішаныя, засяроджаныя, удумлівыя былі напрыканцы лагера іхнія вечаровыя малітвы ў Камайскім касьцёле:

*...За тое, што Ты стварыў гэты сьвет,*
*славім Цябе, Пане!*
*...За тое, што любіш кожнае створанае Табой дзіця,*
*славім Цябе, Пане!*
*...За наша жыцьцё*
*дзякуем Табе, Пане!*
*...За нашых бацькоў*
*дзякуем Табе, Пане!*
*...За тое, што паклікаў нас у гэты лагер,*
*дзякуем Табе, Пане!*
*...За нашы грахі і кепскія ўчынкі*
*прабач нам, Пане!*
*...За нашу лянoту і раўнадушша*
*прабач нам, Пане!*
*...За сьмех і размовы ў касьцёле*
*прабач нам, Пане!*
*...За тое, што іншы раз нам няма чаго Табе сказаць,*
*прабач нам, Пане!*
*...Дапамажы нам заўсёды быць з Табой,*
*просім Цябе, Пане!*
*...Будзь літасьцівы да нас, нашых бацькоў, да ўсіх, хто Цябе любіць,*
*просім Цябе, Пане!*
*...Прыйдзі да тых, хто яшчэ не ведае Цябе,*
*просім Цябе, Пане!..*

Падобная своеасаблівая літанія гучыць у Камайскім касьцёле падчас лагера штовечар. Яе не чытаюць з малітоўнікаў. Яна нараджаецца ў душах дзяцей і моладзі прад алтаром Пана Бога і складаецца з усяго таго, што хлопчыкі і дзяўчынкі перажылі, адчулі, зразумелі за мінулы дзень. Кожны вечар гэтая малітва нараджаецца нанова і гучыць з розных сэрцаў як праслаўленьне, падзяка і просьба да Пана Бога. Яна творыцца з самога жыцьця, а таму непадробна шчырая. І таму ў часе яе, здаецца, чуеш стук усхваляваных сэрцаў. Яна ўзьнікае ў душах тых, хто, можа, да нядаўняга часу яшчэ нават не ўяўляў, што гэта значыць — размаўляць з Панам Богам, жыць па Яго запаветах, выконваць Яго волю і быць шчасьлівым з тае прычыны.

Калі я ўбачыла і адчула ўсё гэта падчас вечаровай малітвы ў Камайскім касьцёле разам з удзельнікамі лагера "Канікулы з Богам", у маёй душы таксама нарадзілася просьба: "Пане! Дапамажы гэтым юнакам і дзяўчатам зьберагчы ў сваіх душах жаданьне быць з Табою. Прашу Цябе, Пане..."

***Ірына ЖАРНАСЕК***
***Фотаздымкі А.ШЭНДЫ***

Касьцёл у Камаях




# Маці вялікай Любові

*5 верасня г.г. ва ўзросьце 87 гадоў памерла Маці Тэрэса. Жывая легенда, найцудоўнейшы прыклад кансэкраванага жыцьця, сумленьне нашага часу, увасабленьне сьвятла, надзеі і бязьмежнай, ахвярнай любові.*

Маці Тэрэса (Ганкшэ Боджакшыу) нарадзілася 27 жніўня 1910 г. у Албаніі. Яе біяграфію можна падзяліць як бы на тры асноўныя вехі:

1. *Жыцьцё ў сям'і* (1910–1928), якая сваёю шляхетнасьцю і ахвярнаю шчодрасьцю ў адносінах да бедных пасеяла ў душы Ганкшэ тыя парасткі спагаднасьці, дабрыні і міласэрнасьці, што пасьля ўзрасьлі і далі гэтаму сьвету сапраўдны прыклад Хрыстовай Любові.

"Першы раз я пачула голас Божы, голас пакліканьня ў Летніцы (марыйны дыяцэзіяльны санктуарый на радзіме Маці Тэрэсы. – *Заўв. рэд.*), са сьвечкаю ў руцэ і з гарачым сэрцам прыняла рашэньне: хачу належаць толькі Богу", – успамінала пазьней Маці Тэрэса.

2. *Жыцьцё ў законе сясьцёр Лярэтанак* (1929–1948). Ужо ў 1929г. з Ірландыі сястра Тэрэса прыехала ў Калькуту, у Індыю, дзе ордэн сясьцёр Лярэтанак займаўся адукацыяй бедных дзяцей. У лісьце да сваіх родных яна пісала: "...вельмі шчасьлівая, што Езус паклікаў мяне менавіта сюды, каб я рабіла больш шчасьлівым жыцьцё найбяднейшых людзей на сьвеце". Але праца ў школе, дзе сястра Тэрэса выкладала геаграфію і гісторыю, усё менш яе задавальняла. Па-за сьценамі школы яна бачыла столькі бяды і галечы, якой не магла нічым дапамагчы, што гэта ні на хвіліну не давала ёй спакою.

У 1942–43гг., у так званыя гады Вялікага Голаду ў Індыі, калі сотні тысяч паміралі на вуліцах, сястра Тэрэса пачула голас Божы, які клікаў яе ісьці на гэтыя вуліцы, каб, па яе ж словах, "дакрануцца да Езуса" ў хворых і паміраючых. Так узьнікла ідэя стварэньня супольнасьці сясьцёр Місіянерак Міласэрнасьці.

3. *Пачаўся трэці, самы важны перыяд у жыцьці Маці Тэрэсы* (1949–1987). У 1950г., дзякуючы рэкамендацыі арцыбіскупа Фэрдынандо Пэрэіры, Рым адобрыў канстытуцыю новай супольнасьці. Было гэта 7 кастрычніка, у дзень Маці Божай Ружанцовай. А праз 15 гадоў, як успамінала Маці Тэрэса, "Сьвяты Айцец утварыў кангрэгацыю, якая непасрэдна падпарадкоўвалася Яго Сьвятасьці. Гэта цуд, што нейкая новая супольнасьць была так хутка ўзьнесена на папскі ўзровень..."

Ва ўступе да канстытуцыі Місіянерак Міласэрнасьці Маці Тэрэса так пісала пра мэту свае супольнасьці: "Наша асаблівае заданьне – гэта праца на карысьць збаўленьня і асьвячэньня найбяднейшых з бедных. Мы робім гэта, апякуючыся хворымі і паміраючымі, зьбіраючы дзяцей з вуліцы, наведваючы жабракоў, атуляючы апекаю іх і іхнія сем'і, даючы прытулак усім тым, хто не мае даху над галавою, любячы аднiачасова пакінутых, самотных і ўшаноўваючы Езуса ў Эўхарыстыі. Такім чынам мы выяўляем нашу любоў да Езуса, утоенага пад постацьцю хлеба і пад постацьцю найбяднейшых з бедных..." Гэтым словам Маці Тэрэса заставалася вернаю ўсё сваё жыцьцё. У адным са сваіх прарочых пасланьняў яна пісала: "Бог не стварыў убоства, гэта мы яго стварылі. Перад Богам усе мы бедакі". Нават калі толькі паспрабаваць пералічыць усе дамы для бедных і паміраючых, прытулкі для дзяцей-сіротаў, якія працуюць па ўсім сьвеце, шпіталі для хворых на праказу і СНІД, калі ўзгадаць Горад Спакою для пракажоных у Індыі, які паўстаў, дзякуючы Маці Тэрэсе, то стане зразумела, што сапраўды праз яе, атрымаўшы яе пакорнае і радаснае "Fiat", дзейнічаў Бог у сваёй вялікай міласэрнасьці: самому чалавеку ўсё гэта было б проста не пад сілу.




Ахвярная любоў Маці Тэрэсы да самых абяздоленых заслужыла вялікае прызнаньне ва ўсім сьвеце.

У 1979г. ёй была прысуджана Нобелеўская прэмія Міру; у 1980г. – вышэйшая ўзнагарода Індыі Бхарат Ратна, якая раней ніколі не прысуджалася неіндзейцам па паходжаньні; у 1983г. – асабісты ордэн брытанскіх манархаў, ордэн за Заслугі...

Атрымліваючы Нобелеўскую прэмію, Маці Тэрэса сказала: "Найвышэйшая ўзнагарода – гэта любоў Езуса. Ён для мяне – усё..."

Пра яе напісана шмат кніг амаль што на ўсіх мовах, выдадзены прыгожыя ілюстраваныя альбомы, зьняты дакументальныя фільмы. Асоба яе аднолькава магнетычна прыцягвала да сябе веруючых і няверуючых, манархаў і жабракоў... "Чалавецтва абудзілася з глыбокага сну эгаізму і абыякавасьці і разам з Маці Тэрэсаю прагне дапамагаць усім, хто гэтага патрабуе", – пісаў пра сваю зямлячку сьвятар і пісьменьнік Люш Гджэрджы. Сьвет нарэшце зразумеў, што Ганкшэ Боджакшыу (Маці Тэрэса) – гэта сапраўдны прыклад дабрыні ў адносінах да галодных, пракажоных, сіротаў, бяздомных, ненароджаных, што яна – Маці сучаснага сьвету. Сьвет знайшоў маці, знайшоў сэрца, якое любіць ўсіх людзей, асабліва церпячых..."

5 верасьня сьвет страціў Маці Тэрэсу. Але назаўсёды засталіся ў гэтым сьвеце яе бязьмежная любоў і яе вялікая ахвярная міласэрнасьць.

***К.Гурская***

***Здымкі з альбома Lush Gjergji "Matka Teresa"***



## Разам з Марыськай





*Дарагая Марыська!*

*Мяне завуць Яся. Я жыву ў Прошкаве, што на Глыбоччыне. Як бачыш, я яшчэ не надта вялікая, але вельмі люблю разам з мамай хадзіць у касьцёл, у нашу Прошкаўскую капліцу. І вельмі люблю, калі мама чытае мне дзіцячы куточак у газеце "Ave Maria".*

***ЯСЯ***

**Ірына ЖАРНАСЕК**

# СПРЭЧКА АНЁЛАЎ

Казка

Міхаська маўчаў. Ён нацягнуў коўдру да самых вачэй і маўчаў. А дакладней, плакаў. І зусім не хацеў, каб ягоныя сьлёзы бачыў Бліскучы Анёл. Але ж ад Анёла-апекуна нічога не схаваеш — ён ведае кожны наш крок, кожную ўсьмешку і кожную сьлязіну. Таму Бліскучы Анёл, нават не запытаўшы нічога, супакоіў Міхаську:

— Не плач, Міхаська! Пекла — гэта вельмі страшнае валадарства, але ў яго трапляюць толькі тыя, хто не хоча жыць па Божых запаветах. І кожны чалавек можа выбраць, з кім яму быць: з Богам альбо...

— Я не хачу "альбо", — заплакаў уголас Міхаська.

З таго месца, дзе сядзеў Бліскучы Анёл, палілося яркае сьвятло:

— Вось і цудоўна, я вельмі рады за цябе, — пахваліў Бліскучы Анёл Міхаську.

Міхаська адразу забыўся на сьлёзы і ўжо радасна ўсьміхаўся анёлу. І ўжо зусім без боязі, а толькі каб яшчэ раз пераканацца ў сіле свайго анёла, ён перапытаў:

— А ты зусім-зусім не баішся злых анёлаў? Яны табе зусім-зусім не змогуць нашкодзіць? А раптам Хіхік...

Ад Бліскучага Анёла зноў палілося яркае сьвятло і ён прамовіў:

— Не, Міхаська! Мне не нашкодзіць Хіхік, бо я — рыцар. Так-так, не зьдзіўляйся. Я належу да адважнага воінства Міхала Арханёла, разам з якім мы...

Ён не скончыў — пад сталом раптоўна ўсчаўся нейкі вэрхал. Там хтосьці варушыўся, пляваўся, цяжка дыхаў, быццам той хтосьці трапіў у пастку і цяпер з усіх сіл намагаўся выцерабіцца з яе.

— Хто тут? — спалохана ўскрыкнуў Міхаська.

— Гэта Хіхік, — спакойна адказаў Бліскучы Анёл. — І я ведаю, чаго ён так... нервуецца... Ён проста не можа цярпець, а дакладней, баіцца сьмелага Міхала Арханёла, разам з якім мы некалі...

— Змоўкні! — пісклява закрычаў Хіхік з-пад стала. — Няхай бы раней прызнаўся, а то "Бліскучы Анёл, Бліскучы Анёл"... Ненавіджу! Ненавіджу цябе і... і... вашага невыноснага Арханёла Міхала.

Не, Хіхік ніколі не вызначаўся асаблівай ветлівасьцю, але каб ажно гэтак?! У ягоным голасе было столькі злосьці, што Міхаська не на жарт перапужаўся.

— Бліскучы Анёл! — паклікаў Міхаська. — Не пакідай мяне, Бліскучы Анёл!

Пад сталом зноў усчалася валтузьня і адтуль цяпер даляталі толькі асобныя гукі:

— Хо! Хі! Хо! Фу! Хі-хо-хі!

Але голас Бліскучага Анёла і цяпер быў спакойны і ясны:

— Я не пакіну цябе, Міхаська! Не бойся. Цяпер ты добра зразумеў, з кім можна сябраваць, а з кім — не? Не бойся: цябе ахоўвае сьмелы рыцар з воінства Міхала Арханёла.

— А хто гэта такі — Міхал Арханёл? — адкрыў рот Міхаська. — І якое ягонае воінства?

— Што ж, я распавяду табе і гэта, — адказаў Бліскучы Анёл, а Хіхік адно што заенчыў пад сталом. Мабыць, ад страху.

### Аповед Бліскучага Анёла пра тое, як пабіліся анёлы

Гэтая вайна, Міхаська, здарылася тады, калі ўсе анёлы падзяліліся на добрых і злых. Злыя адразу зрынуліся ў сваю чорную краіну, але зьмірыцца з гэтым не захацелі — надта ж ужо яна была чорнаю і страшнаю пасьля вясёлага і цудоўнага раю. І вось злыя анёлы замест таго, каб прызнаць свае грахі і павініцца ў іх перад справядлівым Богам, усё яшчэ маракавалі, як ім вярнуць страчаны рай. Іхні правадыр — Чорны Анёл — часта ператвараўся ў Зьмея і ўсё лётаў ды лётаў, насіўся ды насіўся над зямлёй ды касавурыўся на неба, дзе яшчэ зусім нядаўна і сам жыў.

І аднойчы ён вырашыў усчаць вайну супраць самога Бога. Ён так верыў у сваю чорную магутнасьць, што паспадзяваўся атрымаць перамогу і завалодаць небам, зямлёй ды ўсімі прасторамі. І сабраў ён тады сваё чорнае войска і абвясьціў яму, што вырушаюць яны ў бой, каб заваяваць неба. Заскакалі ад радасьці чорныя анёлы і заляскалі зубамі ад страху. Бо яны хоць і зрабіліся вельмі злоснымі, але ж сярод беспрасветнай цемры сталі яшчэ і баязьлівымі.

І рушыла гэтае чорнае войска на неба. Убачылі іх здаля нябесныя анёлы — устрывожыліся. Але тады наперад выйшаў адважны Міхал Арханёл, расправіў свае магутныя крылы:

— Хто ж як Бог? — усклікнуў ён. — Хто асьмеліцца бунтаваць супраць добрага і ўсемагутнага Бога, які стварыў усіх нас?! Дык жа наперад, мае сьмелыя анёлы, мы пераможам у гэтай бітве, бо мы ваюем у імя самога Бога!

І ўраз ва ўсіх анёлаў замест срэбных трубаў зьявіліся мячы. Анёлы, як вядома, вельмі добрыя, але яны заўсёды непрымірымыя супраць чорных сілаў зла і заўсёды гатовыя адстойваць дабро.

Сышліся гэтыя войскі і біліся — доўга і цяжка, да поўнай перамогі. Тры дні і тры ночы зьвінелі мячы за аблокамі, разьляталіся крыкі, аддаваліся загады. Напрыканцы трэцяга дня злыя анёлы змагліся і адступілі. І не знайшлося больш месца для іх на небе. Дык скінуты быў той Зьмей вялізарны, званы яшчэ д'яблам альбо шатанам, які зводзіць з добрай дарогі ўвесь сьвет, — скінуты на зямлю. А разам з ім паляцелі і ўсе ягоныя анёлы. Так Міхал Арханёл зваяваў гэтага брыдкага Зьмея.

Ужо ніколі больш не атрымае страшны злы дух нябеснае краіны, ніколі яму не будзе належаць неба. Бо там на барацьбу за дабро сталі адважныя бязгрэшныя духі, якія ніколі не завагаюцца, што добра, а што — дрэнна.

А што ж на зямлі?

Не ўдалося Зьмею атрымаць перамогу на небе — ён вырашыў атрымаць яе на зямлі. Дзеля таго прабраўся ён аднойчы ў рай і падбухторыў першую жанчыну, якую звалі Евай, зграшыць супраць Бога. Зайздросна яму, бачыш, было, што Бог вельмі любіць людзей, а яны любяць Яго і жывуць з Ім у міры ды згодзе. Аднаго разу падгаварыў Зьмей Еву, каб яна парушыла Божы загад і зьела яблык з дрэва, з якога Бог забараніў людзям есьці плады. Зьмей сказаў Еве: "Калі ты зьясі яблык з гэтага дрэва, то станеш гэткаю ж разумнай, як і сам Бог. І сама ўжо будзеш ведаць, дзе дабро, а дзе зло, што можна, а чаго — не". Хто ж не хоча быць мудрым? І Ева спакусілася — паслухалася хітрага Зьмея.

Але, як вядома, з Богам у хованкі не гуляюць і ашукаць Яго немагчыма. Пакараў Бог за непаслушэнства жанчыну і яе мужа Адама, якога Ева таксама спадманула зьесьці забаронены плод. Выгнаў Бог іх з раю і пасеяў паміж Зьмеям і жанчынай вечную варажнечу, паміж імі і паміж іхнімі нашчадкамі — ва ўсе часы.

І пачалі з таго часу людзі жыць на зямлі: цяжка працавалі, хварэлі і цярпелі беды. І сьмерць прыйшла на зямлю. І пачала валадарыць тут. І вялікі смутак пасяліўся на зямлі. Ён, гэты смутак, жыў у вачах і старых людзей, і зусім маленькіх, бо ўсе яны ведалі, як толькі яны пражывуць тыя гады, якія вызначыў для іх Бог, яны памруць і ўжо ніколі не вернуцца на зямлю.

Ішлі гады, міналі стагоддзі, а на зямлі ўвесь час панаваў шэры смутак. Плакалі людзі і не ведалі, як ім змагацца з бядою. А Чорны Анёл і ягоныя слугі цешыліся, бо не адных іх прагнаў ад сябе Бог, але і людзей...

Заканчэньне. Пачатак у №№10,11 за 1996г. і №№1-7 за 1997г.

Але дарма яны, брыдкія чорныя сілы, цешыліся. Бо людзі ўсё ж не забыліся на Бога. Яны часта маліліся да Усемагутнага і прасілі ў Яго літасьці. Яны верылі, што калі Бог захоча, то Ён верне людзям сваю ранейшую ласку і любоў.

І Бог зьлітаваўся. Ён паслаў на Зямлю свайго Адзінароднага Сына Езуса Хрыста, які павінен быў гэтак жа, як Міхал Арханёл на небе, перамагчы злога Зьмея на зямлі. Перамагчы і вярнуць людзям страчаны імі рай. Вельмі цяжкім было гэтае змаганьне. І ведаеш, Міхаська, чаму? Таму што людзі за гэты час вельмі часта слухаліся Чорнага Анёла і таго, што ім нашэптвалі ягоныя памагатыя, часта дазвалялі, каб чорныя анёлы кіравалі іхнімі ўчынкамі. Вось таму людзі і не змаглі адразу стаць саюзнікамі Божага Сына ў гэтым нялёгкім змаганьні. А многія з іх, наадварот — зусім не захацелі прыняць Божага Сына і не захацелі слухаць таго, чаму Ён вучыў іх. А Ён вучыў, каб яны пакінулі чорных анёлаў, адракліся ад іх і рабілі толькі тое, чаму вучыць іх Бог. Ды людзі навучыліся ад чорных анёлаў хітраваць, з дапамогай хітрасьці ды ашуканства зьбіраць багацьце. Яны нават пачалі спаборнічаць, хто з іх больш зьбярэ золата, срэбра ды ўсялякіх медзякоў. Часам людзям здавалася, што яны могуць ашукаць нават самога Бога. Яны часам маліліся да Яго, але іхнія вусны казалі Богу адно, а самі яны рабілі зусім іншае. Таму яны, занятыя сваімі праблемамі, і не змаглі распазнаць Сына Божага. Яны толькі злаваліся на Ягоную навуку і злосна сыкалі: "Гэты Езус прыдумаў невярагоднае! Ён патрабуе ад нас немагчымага!" Занадта доўга яны блукалі ў цянётах, якія плялі вакол іх чорныя анёлы. Настолькі доўга, што дрэннае пачало здавацца ім добрым. І наадварот. А злыя духі адно цешыліся, як лоўка яны абдурваюць людзей і ўсё больш іх няволяць, усё больш ператвараюць іх у сваіх слугаў.

Злы Дух нават намагаўся спакусіць самога Езуса Хрыста, але, вядома ж, нічога ў яго з гэтага не выйшла. І тады чорныя анёлы ўзмацнілі свае атакі на людзей. Так вось і было: Езус казаў людзям сваю праўду, а чорныя анёлы нашэптвалі ім свае правілы. Людзі ж, як вядома, бываюць вельмі слабыя. Ім толькі здаецца, што яны вельмі моцныя, а на самой справе яны часта гэткія слабыя!.. Таму яны слухалі Езусаву навуку, а самі думалі, што б гэта зрабіць, каб як найлягчэй займець і славу, і грошы.

Тры гады ішла гэтая цяжкая барацьба. І была яна ніколькі не лягчэйшаю за тую, што раней адбылася на небе. Ні на хвіліну не адступаўся Чорны Анёл. Толькі цяпер ён дзейнічаў хітрэй — ён рабіў усё, каб людзі самі сваімі рукамі расправіліся з Сынам Божым.

І людзі здаліся. Яны ўкрыжавалі ні ў чым невінаватага Езуса, які прыйшоў на зямлю, каб іх выратаваць. Злыя духі пачалі ўжо сьвяткаваць сваю перамогу, але... Але не! Яны зноў былі пераможаныя. Бо Езус, памёршы на крыжы, уваскрос з цёмнай магілы і зноў зьявіўся да людзей, каб усё ж даказаць ім, што Ён сапраўды Сын Божы і што Ягоная навука — ад Бога. Але паколькі Ён быў яшчэ і Чалавекам, то цяпер кожны чалавек, які жыве на зямлі, таксама можа ўваскрэснуць і жыць вечна. Калі толькі будзе слухацца Слова Божага, а не слова Чорнага Анёла.

О, гэта было вялікае сьвята на небе! Анёлы бязупынна сьпявалі гімны Стварыцелю і радаваліся, што бедныя людзі на зямлі нарэшце выбаўленыя з моцы Чорнага Анёла. Богу былі прыемныя нашыя сьпевы, і Ён сказаў:

— За тое, што вы, Мае добрыя анёлы, гэтак цешыцеся справе Збаўленьня, Я даю вам за Валадарку над вамі саму Маці Божую, сьвятую Марыю.

Мы вельмі ўзрадаваліся, бо вельмі любілі сьвятую Марыю. Мы сьпявалі ёй прыгожыя песьні, а тыя анёлы, якія ў гэты час былі на зямлі, распавядалі потым, як з валадарства Чорнага Анёла далятала страшнае выцьцё — гэта чорныя анёлы аплаквалі сваю паразу. А яшчэ яны спужаліся нашай Валадаркі, бо ведалі аб яе поўнай згодзе з воляй Божай. Той жа, хто заўсёды жыве ў згодзе з воляй Божай, вельмі страшны і небясьпечны для злых духаў.

Людзі ж, убачыўшы ўваскрослага Езуса Хрыста, паверылі нарэшце ў Яго. Ён пасьля вярнуўся на неба, а людзям пакінуў сваю навуку — Евангельле. Дзеля таго пакінуў, каб яны пачалі жыць па гэтай навуцы, якая зноў прывядзе іх да Бога і верне ім страчаны рай. А тыя, што паверылі ў Евангельле, панесьлі гэтую навуку на ўвесь сьвет, каб усе людзі пачулі Добрую Навіну аб збаўленьні іх з моцы Чорнага Анёла. Каб прасілі ў Бога прабачэньня за тое, што здраджвалі Яму і слухаліся часам голасу Чорнага Анёла — зьмея пракаветнага.

І да таго часу, пакуль людзі будуць хоць бы трохі, нібыта жартам, зьлёгку слухацца голаса злога духа, датуль беды і няшчасьці будуць прасьледаваць іх. А калі хтосьці поўнасьцю прызнае ўладу Чорнага Анёла, то яго чакае немінучая краіна вечнай сьмерці, якая называецца пеклам. Таму кожнаму чалавеку трэба змагацца са спакусамі чорных анёлаў, якія штодня снуюць вакол яго сваё чорнае павуціньне. У гэтае павуціньне вельмі лёгка трапіць, а вось выбрацца пасьля з яго бывае вельмі цяжка, а то й немагчыма. І табе, Міхаська, таксама трэба змагацца з тым, на што цябе штурхае Хіхік — чорны анёл.

Бліскучы Анёл змоўк. Міхаська, стаіўшы дыханьне, праслухаў увесь ягоны аповед і цяпер адно сказаў цьвёрда і ўпэўнена:

— Я не хачу больш сябраваць з Хіхікам. Калі б я адразу ведаў, што ён з войска Чорнага Анёла, я ніколі не сябраваў бы з ім. Я хачу сябраваць толькі з табой, Бліскучы Анёл.

Крылы Бліскучага Анёла зазьзялі ўсімі колерамі





вясёлкі, ён радасна заўсьміхаўся і прамовіў:

— Я вельмі шчасьлівы, што пачуў ад цябе такія прыгожыя словы.

— ...Ы-ы-ы... — пачулася раптоўна з-пад стала. — ...Ы-ы-ы... Хліп... Хліп.

Гэта, вядома, быў Хіхік. Але Міхаська на гэты раз зусім не зьбіраўся шкадаваць яго, ён толькі зьдзівіўся:

— А ты, Хіхік, усё яшчэ тут? Я думаў, ты даўно паляцеў ад нас.

— Паляцеў-паляцеў, — перадражніў Хіхік Міхаську. — І паляцеў бы, каб не слухаць брыдкія аповеды гэтага Блішчасьціка, але ж гэты агідны твой клей... Да яго, аказваецца, могуць прыліпнуць не толькі ногі-рукі, але й крылы! Я не магу выбрацца з тваёй брыдкага клею! Зрабі нарэшце штонебудзь!



Малюнак Насты Герасімовіч

— Але навошта ты яго браў? — зьдзівіўся Міхаська.

Хіхік зноў завалтузіўся, закрактаў пад сталом:

— Навошта, навошта! Ты ж ужо не робіш ніякіх сьмешных прыдурстваў, вось я і вырашыў... за цябе...

— Ты? За мяне? Які жах! — закрычаў Міхаська. — І што ты надумаўся зрабіць за мяне?

— Я... я... Фу! Які брыдкі і ліпкі гэты клей! Я хацеў яго ўліць у кудлы тваёй сястры. Фу! Ён жа зусім не адстае!

— І ты хацеў уліць яго ў Вольчыны кучаравыя валасы?! Як табе не сорамна! Ты ж бы зьнішчыў ейныя прыгожыя валасы! Які ты злы! Ладна, пачакай — зараз уключу сьвятло і паспрабуем цябе выратаваць з клею.

Але Хіхік на гэта штосілы залямантаваў:

— Не ўключай! Ты што, забыўся — мне нельга сьвятла! Я ненавіджу сьвятло!

— Але ж як мне тады цябе выратаваць? — запытаў Міхаська.

— Скуль я ведаю! Гэта твой клей — ты і думай! Ой! Я прыліп! Увесь прыліп! Зусім... прыліп...

З кута падаў голас Бліскучы Анёл:

— Трэба ўключыць сьвятло.

— Не! Нізавошта! Не люблю вашага брыдкага сьвятла! Ненавіджу!

— Чаму гэта яно брыдкае? — пакрыўдзіўся Міхаська. — Прывык ты там у сваёй чорнай цямрэчы...

І ён уключыў сьвятло.

У пакоі было пуста. Нічога і не нагадвала аб тым, што кагадзе адбывалася тут. Міхаська саскочыў з канапы і зазірнуў пад стол. На падлозе расьцяклася вялікая пляма клею, пасярэдзіне якой клубком ляжала нейкае чорнае павуціньне.

— Хіхік! — асьцярожна паклікаў Міхаська, але ніхто не азваўся.

Міхаська ўздыхнуў, выключыў сьвятло і залез пад коўдру. Хвіліну паляжаў і паклікаў:

— Бліскучы Анёл!

З кута палілося лёгкае сьвятло, і Бліскучы Анёл прамовіў:

— Сьпі, мой добры дружа. Сёньняшнія прыгоды скончыліся. Адпачывай.

— Добра, я буду спаць, — згадзіўся Міхаська, — але ты толькі скажы мне, Хіхік ужо ніколі не вернецца? Хіхік загінуў у тым клеі, які ён падрыхтаваў Вольцы? А калі б я не ўключыў сьвятло, ён, можа б, яшчэ і жыў?

Бліскучы Анёл адказаў:

— У вас, людзей, ёсьць прымаўка: "Не капай ямы бліжняму — сам у яе трапіш". А Хіхік шмат каму капаў ямы, у тым ліку і табе. Вось і трапіў у яе нарэшце. І ніколі, Міхаська, не шкадуй, што ўключыў сьвятло. Ведай: цёмныя сілы вельмі баяцца Бога, Крыжа і сьвятла.

— А ты, Бліскучы Анёл, ніколі мяне не пакінеш? — на ўсялякі выпадак яшчэ раз перапытаў Міхаська.

Бліскучы Анёл неспадзявана ўзмахнуў крыламі, праляцеў па пакоі, пакружляў і зноў прысеў на бажніцу — побач з абразом Маці Божай.

— Ты, Міхаська, адважны хлопчык, і я вельмі люблю цябе, — сказаў ён. — Хоць ты і нарабіў шмат глупстваў, але ўсё ж адумаўся і зразумеў, дзе зло, а дзе — дабро. І таму я назаўсёды застануся тваім верным сябрам. Але і ты не забывай мяне.

Міхаська заплюшчыў вочы і ўжо праз сон, соладка ўсьміхаючыся, папрасіў:

Анеле Божы, дружа мой!
Ты заўсёды пры мне стой!
Рана, ўвечар і ўначы
Будзь ласкаў мне памагчы...

# МАЛІТВЫ ЦУДОЎНЫЯ СЛОВЫ...

**Па шматлікіх просьбах чытачоў друкуем малітвы *"Ойча наш...", "Вітай, Марыя...", "Хвала Айцу..."* і *"Веру ў Бога Айца..."* на лацінскай мове.**

In nomine Patris, et Filii, et Spiritus Sancti. Amen.

**Pater noster...** (Ойча наш...)
Pater noster, qui es in caelis: sanctificetur nomen tuum; adveniat regnum tuum; fiat voluntas tua, sicut in caelo, et in terra. Panem nostrum cotidianum da nobis hodie; et dimitte nobis debita nostra, sicut et nos dimittimus debitoribus nostris; et ne nos inducas in tentationem, sed libera nos a malo. Amen.

**Ave Maria...** (Вітай, Марыя...)
Ave Maria, gratia plena, Dominus tecum, benedicta tu in mulieribus, et benedictus fructus ventris tui, Iesus. Sancta Maria, Mater Dei, ora pro nobis peccatoribus, nunc et in hora mortis nostrae. Amen.

**Gloria Patri...** (Хвала Айцу...)
Gloria Patri et Filio
Et Spiritui Sancto
Sicut erat in principio et nunc et semper
Et in saecula saeculorum. Amen.

**Credo** (Веру ў Бога Айца...)
Credo in unum Deum, Patrem omnipotentem, factorem caeli et terrae, visibilium omnium, et invisibilium. Et in unum Dominum Iesum Christum, Filium Dei unigenitum. Et ex Patre natum ante omnia saecula. Deum de Deo, lumen de lumine, Deum verum de Deo vero. Genitum, non factum, consubstantialem Patri: per quem omnia facta sunt. Qui propter nos homines, et propter nostram salutem descendit de caelis. Et incarnatus est de Spiritu Sancto ex Maria Virgine: et homo factus est. Crucifixus etiam pro nobis: sub Pontio Pilato passus. Et sepultus est, et resurrexit tertia die, secundum Scripturas, et ascendit in caelum: sedet ad dexteram Patris. Et iterum venturus est cum gloria, iudicare vivos et mortuos: cuius regni non erit finis. Et in Spiritum Sanctum, Dominum, et vivificantem: qui ex Patre Filioque procedit. Qui cum Patre et Filio simul adoratur, et conglorificatur: qui locutus est per Prophetas. Et unam, sanctam, catholicam et apostolicam Ecclesiam. Confiteor unum baptisma in remissionem peccatorum. Et expecto resurrectionem mortuorum. Et vitam venturi saeculi. Amen.

**На вокладцы:**
на 2-й старонцы – фотарэпартаж з Меджугор'я Зоф'і Сордыль;
на 3-й і 4-й старонках – фотарэпартаж Анатоля Клешчука з урачыстасьці юбілею касьцёла ў Браславе.

**«Ave Maria»**
жнівень-верасень № 8-9 (34-35) 1997
Заснавальнік –
Мінска-Магілёўская архідыяцэзія
Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку.
Рэгістрацыйны № 225.
Рэдакцыйная рада
Надрукавана на Мінскай паліграфічнай фабрыцы "Чырвоная зорка" (г.Мінск, 1-ы Загарадны зав., 3).
Зак. 1879. Наклад 13 000 экз.
Адрас рэдакцыі:
220030, г.Мінск, пл.Свабоды, 9,
тэл./факс: (0172) 26-90-92
Катэдральны касьцёл
Найсьвяцейшай Марыі Панны
Часопіс выдаецца
на ахвяраваньні вернікаў

У НУМАРЫ





